
Нашая гісторыя → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Высяленне з пушчы → 9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 44 (3103) Год LX Беласток, 1 лістапада 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Пра бежанства яшчэ раз

**Мы гэтай кнігай вылавілі мноства аповедаў пра той трагічны лёс нашых людзей, якія ў 1915 годзе падаліся ў бежанства, — расказваў рэдактар другога выдання «Бежанства 1915 года» Віталь Луба.**

— Ініцыятыва заняцца бежанствам выйшла ад прафесара Яўгена Мірановіча, колішняга рэдактара «Нівы» і старшыні Праграмнай рады, гісторыка, які арыентаваўся і ведаў, што гэтая тэма яшчэ не даследуецца. А сама «Ніва» пісала пра гэта і раней, журналісты «Нівы» запісвалі ўспаміны чытачоў. Былі такія карэспандэнты і чытачы, якія самі дасылалі свае ўспаміны. Кніга карысталася таксама цікавасцю ў навукоўцаў, якія спасылаліся на яе матэрыялы, на размовы з людзьмі, апублікаваныя ў нашай кнізе. Лічыцца, што з тых, хто падаўся ў бежанства ў 1915 годзе, траціна не вярнулася назад: частка людзей памерла ад хвароб, частка загінула падчас вайны, рэвалюцый, але нехта папросту застаўся там, упісаўся ў тамашняе жыццё. Бежанства перавярнула жыццё з ног на галаву: дыяметральна змянілася сітуацыя, людзі страцілі маёнтак, вярталіся на голае поле. Выязджаючы, пакідалі будынкі, а калі вярталіся, рос там маладняк. Людзі спачатку капалі зямлянкі і жылі ў іх па некалькі гадоў. Хадзілі ў польскія шляхецкія вёскі, працавалі як парабкі, пастухі, дараблялі, абжываліся, а некаторыя нават жабравалі. Усё міжваеннае дваццацігоддзе было адбудовай таго, што яны пакінулі ў 1915 годзе. Гэта засталося ў памяці не аднаго пакалення.

Сто гадоў пасля пачатку аднаго з найбольш трагічных падзей, якія кранулі жыццё беларусаў Падляшша і перакулілі палітычны і эканамічны лад жыцця на доўгія гады, адзначаем гэтую горкую гадавіну падзеі. Доўгія гады яна замоўчвалася і ў гістарычных кнігах, часам і ў сямейных расказах удзельнікаў. Не да канца асэнсавана значэнне гэтай падзеі ў гісторыі і ў жыцці паасобных удзельнікаў і іх нашчадкаў. Ужо праўнукі і прапраўнукі выжыўшых бежанцаў збіраюць па крышынцы ўспаміны сваіх продкаў, адшукваюць дакументы. Сотні тысяч людзей Падляшша і Холмшчыны, у асноўным з праваслаўных вёсак, рушылі былі на блуканне, якое яшчэ ў гісторыі не бачылася. Пешшу, на жалезных вазах, гонячы наперадзе кароў і авечак. Тысячы кіламетраў у глыбіню Расійскай імперыі. Над Дон, на Каўказ, у Сібір, часам нават аж да кітайскай мяжы. Ратуючыся ад немінучай вайны. Расіянамі і народамі, насяляючымі імперыю, прымаліся як родныя. Аказвалі ім дабрыню і шырокую дапамогу. Рэвалюцыя і грамадзянская вайна змянілі ўсё. Лёс уцекачоў аказаўся значна складанейшым, чым тых, што засталіся. У сем'ях захоўвалі памяць пра гэтую падзею і аб цікіх героях з часу Першай сусветнай вайны. Расказы амаль рэальныя: на дарогах і чыгуначных станцыях разыгрываецца самы трагічны раздзел бежанства. Калоны вазоў заліваюць усе дарогі, вядучыя на ўсход. У пыле і пякучым сонцы — трывае ж гарачае лета 1915 года — уцекачы сціскаюцца паміж адыходзячай у спешцы расійскай арміяй, часта спіхваныя ёю на абочыны. Калі над'язджаюць ваенныя аўтамабілі, непрывыклыя да іх сялянскія коні бягуць у паніцы, топчуць усё вакол. Яшчэ горш, калі з'яўляюцца нямецкія самалёты. Надлятаюць, каб бамбаваць адыходзячую армію, але не ашчаджваюць і бежанцаў... Аповеды бежанцаў нагадваюць сцэны з Апакаліпсіса. У студнях, якія па дарозе, выбралі ўжо ваду, людзі п'юць тое, што засталося ў прыдарожных вадаёмах. Успыхаюць эпідэміі — брушнага тыфу, дызентэрыі, нават халеры. Спачатку паміраюць малыя дзеці. Побач дарог растуць магілы, адзіночныя, штораз часцей брацкія. Многіх з мёртвых няма каму пахаваць... Тыя, што перажылі страшную дарогу ў глыб імперыі, прыём іх жыхарамі Расіі, пасля падзей рэвалюцыі і грамадзянскай вайны вярнуліся на голы камень, страціўшы сваіх блізкіх, часам застаўшыся сіротамі. Іх патомкі адкрылі свае сямейныя архівы і схованкі памяці.





Мікола Ваўранюк і Віталь Луба



Барбара Пякарская

22 кастрычніка ў Пачатковай школе № 4 у Беластоку была адкрыта выстава «Бежанства. Незвычайныя гісторыі звычайных людзей», падрыхтаваная Белавежскім нацыянальным паркам у супрацоўніцтве з парталам biezenstwo.pl. Стэнды выставы можна пабачыць на школьным калідоры, насупраць уваходу. Зараз пасля адкрыцця выставы пачалася прамоцыя другога пашыранага выдання кнігі «Бежанства. 1915 года» (першае выданне пабачыла свет у 2000 годзе). Змяшчаецца там амаль 170 сямейных гісторый, пераважна жыхароў Беласточчыны, дакументы, фотаздымкі. Сустрэчу з рэдактарам кнігі Віталем Лубам вёў Мікола Ваўранюк. У новым выданні апынуліся, між іншым, новыя ўспаміны, архіўныя матэрыялы ды здымкі.

Арганізатарам выставы ды сустрэчы было Аб'яднанне АБ-БА. Удзельнікі прэзентацыі, якая адбылася ў Беластоку ў „Склепе з культурай", дзяліліся ўспамінамі, якія захаваліся ў сем'ях. — Бабуля не да канца помніла, таму што ёй было толькі два гады, як яны з'язджалі з вёскі, са сваёй хаты. Яна помніла, што калі выязджалі, закапалі ў зямлі каштоўныя рэчы, якіх не маглі з сабой забраць.

— Людзі, якія засталіся, меркавалі, што яны напэўна загінуць і не перажывуць гэтага ліхалецця. Але аказалася, што ўсе засталіся жывымі. Але тыя, хто з'ехаў, то там абавязкова хтосьці паміраў. Прыйшлі тыя камісары, забралі збожжа, забралі ўсё. І трэба было ўцякаць.

— Наша кніга дапоўненая і гэта другое выданне, але дзякуючы таму, што гэтым пачалі займацца журналісты «Нівы», у нас ёсць непасрэдныя сведчанні ўдзельнікаў тых трагічных падзей, атрымаць якія сёння было б немагчыма. Сюды ўвайшлі тыя запісы, якія друкаваліся ў «Ніве» ўжо пасля выхаду першага выдання і нават сёлета. Журналістка Іаанна Чабан у наваколлі Крынак пашукала людзей. Яшчэ жыве пакаленне ўнукаў, якія помняць аповеды сваіх бацькоў, што дзецьмі ці маладымі людзьмі былі ў бежанстве. Многія засталіся: дзяўчаты выходзілі замуж, хлопцы жаніліся там, уладкоўваліся на працу, недзе вучыліся. Вярнуліся тыя, што мелі тут пакінутыя гаспадаркі, а там, папросту, не прыжыліся. Тады была складаная і матэрыяльная, і палітычная сітуацыя. Першы перыяд людзі ўзгадваюць вельмі нават станоўча, бо прынялі іх сардэчна, рассялілі, яны атрымлівалі грашовыя дапамогі, людзі дапамагалі ім з ежай, потым прымалі на працу. І можна сказаць, што да пачатку рэвалюцыі, была «ідылічная» атмасфера. Прынамсі так бачыцца, калі чытаеш успаміны. Памятаецца ім тое, што найбольш адрознівала іх ад тых, куды заехалі. Не было бульбы і тых прыезджых называлі «гродненскай картошкай», бо яны заўсёды хацелі бульбы, а там, як успамінаюць некаторыя, елі столькі бульбы, колькі ў нас мяса: там было многа мяса і мала бульбы, а ў нас — наадварот... Гэтыя ўспаміны застануцца ў памяці не аднаго пакалення.

Зборнік успамінаў і дакументальных матэрыялаў «Бежанства 1915 года» павінен стаць настольнай кнігай кожнага беларуса. Можна набыць яго ў рэдакцыі «Нівы».

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ





# Змены і новыя шанцы

Змена ўлады — заўсёды падзея большага ці меншага маштабу, значнага павароту ці лёгкага ўхілу ў той ці іншы бок. Майму пакаленню ў дзяцінстве і ранняй маладосці пашанцавала на перамены ў стане кіраўнікоў дзяржавы. Састарэлыя генсекі Савецкага Саюза задзіралі бараду і сыпаліся з уяўнага трону адзін за адным, нібы грыбы ў кошык у асеннюю ўрадлівую пару. І калі па зыходзе ў іншы свет Брэжнева людзі яшчэ перажывалі, то смерці яго наступнікаў акрамя нейкай пакеплівай ірoніі ў народзе ўжо нічога не выклікалі. А потым надышоў вецер сапраўдных перамен. Перабудова, хоць яе ганяць многія, дала шанцы не толькі на ўстанаўленне дзяржаўнасці цэламу шэрагу народаў. Яна прадставіла новыя магчымасці сотням тысяч, мільёнам асобных людзей. Многія з іх адчулі асалоду свабоды і вырваліся з савецкага мінулага, дасягнулі матэрыяльнага дабрабыту, рэалізавалі творчы патэнцыял, адкрылі для сябе навакольны свет. Аднак агрэсіўная савецкая большасць, якая прывыкла да сацыялістычнага размеркавання, планавай эканомікі і пэўных сацыяльных гарантый, а калі казаць груба — да карыта і палкі з вадой, не змагла асэнсаваць гэтай новай рэчаіснасці, затаіла злосць і агрэсію да перамен іхняга ладу жыцця. У выніку праз пэўны час адбыўся рэванш савецкага чалавека ў многіх былых рэспубліках СССР. Беларусь тут была хіба найпершай. За ёй Расія і Украіна. Пры тым цэнтр „управления полётом” нязменна заставаўся ў Маскве. Са зменай ліберальнага ельцынаўскага рэжыму на пуцінскі гэбоўскі, з усімі яго характэрнымі рысамі і праявамі, такі рэванш стаўся амаль поўным.

Кола гісторыі, аднак, круціцца па сваіх законах. І вось ужо Украіна зрабіла не адну, а нават дзве спробы вырвацца на іншы прастор, пабудаваць вольную дзяржаву. Першая спроба пасля аранжавай рэвалюцыі скончылася поўнай няўдачай. Гідра карупцыі, прага ўлады і наживы, празмерныя амбіцыі палітыкаў зжэрлі амаль усе яе заваёвы. Спатрэбілася прайсці кола яшчэ аднаго пекла, каб атрымаць новы шанц. І зноў усё так няпроста ва Украіне. Старыя хваробы грамадства, негатыўныя наступствы палітыкі папярэдняга кіраўніцтва, непаслядоўнасць новых правадыроў прыводзяць да расчаравання дэмакратыяй. Так што значная частка ўкраінцаў зайздросціць стабільнасці ў Беларусі, верыць у дабрабыт яе насельнікаў і незалежнасць палітыкі нязменнага кіраўніка Сінявокай. Паводле сацыялагічных апытанняў, Аляксандр Лукашэнка — самы папулярны замежны палітык ва Украіне. Найменш жа папулярны там — крамлёўскі ўладар Пуцін. Вось такі парадокс — бо абое рабое, а ставяць іх на розныя полюсы. Цікава было таксама паслухаць апытанне жыхароў Украіны на тэму дзе жывецца лепш — у Беларусі ці ва Украіне. Адна жанчына прыгадала на гэтую тэму старую показку пра сабак. Маўляў, розніца паміж намі невялікая — у аднаго сабакі ланцуг доўгі, але міска пустая, а ў іншага ў місцы нешта наліта, але ланцуг зусім кароткі.

А вось у Беларусі найбольш папулярны палітык зараз — гэта Уладзімір Пуцін. Дзяржаўныя сацыялагічныя службы, а іншых фактычна няма, нават вынікаў рэйтынгаў прыводзіць не хочуць. Аднак замераць гэты рэйтынг можна проста — дастаткова пабыць пару тыдняў у людных месцах і паслухаць пра што гавораць людзі. Упершыню за многія гады папулярнасць мясцовага Людовіка Чатырнаццатага (ён жа Аляксандр Першы) ніжэйшая за рэйтынг яго маскоўскага начальніка. І гэта ў мінскім „чырвоным доме” цудоўна ведаюць. Таму і стараюцца лавіраваць у той пастцы, куды зацягнулі разам з сабой цэлую краіну.

А вось Польшчы 2015 год прынёс сапраўдныя змены ў кіруючай эліце. Па ўсім выходзіць, што пасля вынікаў парламенцкіх выбараў дагэтуляшняя апазіцыя будзе мець паўнату ўлады. І таму ў многіх людзей новыя надзеі, новы імпульс да жыцця. Канешне, рана на жывым мядзведзі скуру купляць, але многія беларусы шчыра перажываюць светлай зайздрасцю да суседзяў. І зайздрасць гэтая найперш да таго, што суседзі маюць магчымасці на змены, маюць новыя шанцы. Ну, а як імі скарыстаюцца — пакажа час.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Стаяў сабе мур

Насуперак песімістычным чаканням, сутыкненне польскіх яблыкаў і кількі з Вейгерова (аб якіх я пісаў у больш ранніх фельетонах) з мурам расійскага эмбарга, пайшло ім на карысць. Яблыкі, праўда, трохі ў сіняках, весела пакаціліся на Блізкі і Далёкі Усход, у Японію, Кітай, В'етнам і нават экзатычную Інданезію, а шпроты паплылі касяком абніжаных цэн у польскія крамы. Асабіста, я вельмі люблю шпроты ў алеі, так што зараз папускаю пояс свайму гарганцюічнаму апетыту як толькі магу і колькі змагу. Проста сёння я магу сабе гэта дазволіць. Дзякуем вам за эмбарга, славянскія браты!

Але не аб шпротах у гэты раз я хацеў напісаць, але аб муры. Больш канкрэтна, аб пагранічных агароджах, якія, вядома, з гадамі парахнеюць і, з часам, як тыя схіляючыся штораз бліжэй і бліжэй да зямлі на падляшскіх, дэпапуляцыйных вёсках, парослыя бур'янам і якія ў канчатковым выніку становяцца пажыўным асяроддзем для лішайнікаў і ўсялякіх грыбоў, узбуджаючых чарговы цыкл адраджаючайся Прыроды.

Гісторыя плота сягае першабытнага часу чалавека. Пачалося з калючых карчоў, якімі ён забяспечваў сваё жытло ад дзікіх звяроў, затым ад ваяўнічых суседзяў. З засваеннем новых тэхналогій, плот быў ператвораны ў зямляна-цагляны, потым у жалезабетонную сцяну, як славуты «берлінскі» мур, раздзяляючы Еўропу на дзве варожыя ідэалагічна часткі. Тысячы гадоў таму мурам апаясаліся кітайцы ад манголаў, а і Рым не ўстаяў супраць варвараў. У абодвух выпадках мала было ад гэтага карысці. Манголы і так авалодалі Кітаем, і нават Рым не змог супрацівіцца націску варвараў. Дарэчы, цікава, што тое, што здаецца быць практычным і разумна апраўданым актуальным чалавечым вопытам, з гістарычнай перспектывы, прытым не заўсёды далёкай, аказваецца быць эмпірычным глупствам. Тым не менш, чалавечы род у сваёй эгаістычнай упартасці не ў стане рэфармавацца. Вядома, яму часам здараецца трапіць на дарогу ў Дамаск і, так як Саўлу, дасведчыць цудоўнага ўнутранага пераўтварэння, якое прынцыпова змяняе актуальны спосаб разумення і, перш за ўсё, трактавання рэальнасці, але гэта здарэнні выпадковыя і з цягам часу разглядаюцца быццам закамянелась чалавечай утопіі, паказаная ў музейнай вітрыне. Дарэчы, прыкладам такога ўзору становіцца памаленьку ідэя супольнасці аб'яднаных нацый і ідучае за ёю так званае Шэнгенскае пагадненне, якое дазваляе на свабоднае перамяшчэнне людзей і тавараў, незалежна ад існуючых адміністрацыйных межаў краін, уваходзячых у Еўрапейскі Саюз. Канцэпцыя выдатная, па-за часам, але і фантасмагарычная, як і многія іншыя да яе.

Такім чынам, ідэя плота пастаянна развіваецца. Яго ўзвышанай формай былі нацыянальныя межы. Ахоўвалі іх узброеныя да зубоў арміі. Але не толькі. Гэтак жа, як «берлінскі» мур ці будаваны ў Палесціне ізраільцянамі, мур узбройвалі з часам нават электрычнымі калючымі правадамі, і так межы былі ўзмоцнены вытанчанымі навінкамі. Так званыя тарыфныя бар'еры, прызначаныя ў здагадцы абараняць слабейшыя нацыянальныя гаспадаркі ад экспансіянізму эканамічна моцных суседзяў, з'яўляюцца гэтага добрым прыкладам, хоць шкодным звычкай палітычнага эгаізму свету. Возьмем, хаця б, славутую кантрабанду сала, якое захапілі беларускія мытнікі на памежным пераходзе ў Брэсце. Яно ехала — сала! — у памеры 112 кг неабавязкова ў раскошных умовах, хоць у фешэнебельным лімузіне „BMW” у баку на паліва, у бамперы і нават у дадатковым баку на газ. Мытнікі выратавалі сваю краіну ад паводкі таннага сала з Польшчы. Тым не менш, калі б гэта кранала толькі сала і толькі польска-беларускія гандлёвыя адносіны, можна было б прыплюшчыць на гэта і так даволі бяльмастае вока. Але памежная кантрабанда распаўсюджваецца на бежанцаў, якія заліваюць Еўропу. У тым ліку Беларусь. Ну і як, у святле гэтай праблемы, ігнараваць існаванне пагранічнага плота? Так вось Еўропа стала агароджваецца. Хутка будзе цяжка знайсці краіну, якая не будзе акружаная плотам.

Міраслаў ГРЫКА



## Вачыма еўрапейца

# Пасля парламенцкіх выбараў

Абралі мы склад новага парламента. Калі даем у друк гэты нумар „Нівы”, пакуль невядомыя канкрэтныя імёны дэпутатаў і сенатараў, якія будуць засядаць у абедзвюх палатах. З дадзеных, якія мы мелі падчас закрыцця тыднёвіка, вядома, што папаўна дэпутатамі Сейма стануць кандыдаты, якія балатаваліся з выбарчых камітэтаў ПіС, Грамадзянскай платформы, партый „Кукіз‘15”, „Сучасная” Рышарда Пэтру, і ПСЛ. Відавочным пераможцам з'яўляецца ПіС, па ўсёй краіне, а на Падляшша яшчэ больш. Назіраючы за перадвыбарнай кампаніяй, як у цэлым па краіне і, у прыватнасці, на Падляшшы, а асабліва ў Беластоку, здавалася, што бітва за месцы ў парламенце адбываецца, перш за ўсё, паміж ПіС і ГП.

Адным з самых вялікіх сюрпрызаў кампаніі быў удзел у выбарах Партыі „Разам”. На яе спіску былі маладыя беларусы, якія не толькі адкрыта прызнаюць сваю ідэнтычнасць, але ствараюць з беларушчыны свой козыр, як лідар партыйнага спісу з Падляшша Севярын Пракапюк і іншы з яе кандыдатаў — Міхал Іванюк. За некалькі дзён да выбараў у нядзелю (25 кастрычніка) выпусцілі яны сваю дзвюхмоўную польска-беларускую ўлётку з палоскай з беларускім узорам збоку. Яна зрабіла фурор на сайтах сацыяльных сетак — так як у час агульнанацыянальнай дыскусіі на тэлебачанні ўдзел лідара гэтага «нізавога руху» — Адрыяна Зандберга. Ва ўлётцы — распаўсюджванай пад лозунгам гэтага камітэта: «Іншая палітыка магчымая» — звярталася ўвага на праблемы, якія стаяць перад усімі жыхарамі ваяводства, у тым ліку беларусамі Падляшша, перш за ўсё ў асабліва пацярпелых падляшскіх вёсках (эміграцыя моладзі, беспрацоўе...).

Іншыя кандыдаты, якія дэкларатыўна кіраваліся да беларускага асяроддзя або нават выводзяцца з яго, на такога тыпу беларускую кампанію не адважыліся або не прыдумалі такой ідэі. Патанулі яны ў струмені лозунгаў, абяцанняў, выбарчых дэкларацый, так як канстытуцыяналіст Яраслаў Матвяюк, былы член клуба СЛД, які балатаваўся з апошняга месца падляшскага спісу ПСЛ. Ён на выбарах спасылаўся на лозунг «абароны правоў і бяспекі», амаль да апошняга дня перад выбарамі быў каментатарам для публічнага тэлебачання ў Беластоку, таксама па палітычных пытаннях, а падчас кампаніі быў частым героем перадвыбарчых прэс-канферэнцый ПСЛ. Яшчэ адзін кандыдат ПСЛ з беларускага асяроддзя Мікалай Яноўскі падчас выбарчай кампаніі не быў асабліва прыкметны. Дарэчы, як і лідар гэтага спісу падляшскі маршалак Мечыслаў Башко з Сакольшчыны ці Мікалай Міраповіч са спіска Аб'яднаных левых партый. Дэпутат ад ГП, былы намеснік прэзідэнта горада Беластока і дарадчык па нацыянальных і этнічных меншасцях былога прэзідэнта Браніслава Камароўскага Аляксандр Сасна, які балатаваўся з трэцяй пазіцыі падляшскага спіса Аб'яднаных левых партый, праводзіў прамыя сустрэчы з выбаршчыкамі, аб'язджаючы мясцовасці Беласточчыны і ўручаючы расады сасонак. «Не толькі турызм — але інвестыцыі, на аснове кантактаў з Усходам і быццё мостам паміж нашымі краінамі — гэта магчымасць для росту і стварэння працоўных месцаў у нашым рэгіёне», — запэўніваў. У сваю чаргу, навуковец Беластоцкай палітэхнікі, былы беластоцкі радны Адам Мусюк, пяты на спіску падляшскай ГП з указаннем Форуму меншасцей Падляшша і з падтрымкай Праваслаўнай царквы, што можна было ўбачыць нават з яго перадвыбарных плакатаў на некаторых варотах праваслаўных цэркваў у рэгіёне — з'яздджаў рэгіён на машыне-пазадарожніку маркі „Rover”, з банерам з англійскамоўным надпісам „Musi Rover”.

Кандыдат у сенатары з Падляшша з паўднёвай акругі, шматгадовы дэпутат ад СЛД Яўген Чыквін, цяпер выступаючы пад шыльдай свайго ўласнага камітэта (пры падтрымцы ГП, СЛД, ПСЛ і Царквы) бітву вёў толькі з Тадэвушам Раманчуком ад ПіС, старшынёю Малочнага каапeратыва з Бельска-Падляшскага. У выбарчым спосе на Беластоцкім тэлебачанні прама падтрымаў яго Владзімеж Цімашэвіч, які сам адмовіўся кандыдаваць у парламент, а сціпла падтрымліваў (хоць першапачаткова рэкамендаваў яму адмовіцца ад удзелу ў выбарах) свайго сына Тамаша, які балатаваўся з апошняга месца на падляшскім спіску Грамадзянскай платформы і неадназоўна — дзякуючы зацікаўленасці журналістаў яго адносінамі з бацькам — паяўляўся ў кампаніі ў агульнапольскіх СМІ.

Праз тыдзень выбарчыя падрабязнасці, асабліва ў беларускіх матывах.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# БЕЖАНСТВА з Гайнаўшчыны ў Расійскую імперыю

**Ушанаванне сотай гадавіны масавага выезду жыхароў нашага рэгіёна ў глыб Расійскай імперыі ў 1915 годзе пачалося восенню мінулага года пастаноўкай «Бежанства», якую ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы паказалі гайнаўскія і бельскія ліцэісты, якія займаюцца ў тэатральным гуртку пад кіраўніцтвам Іаанны Стэльмашук-Троц. На працягу года вучні абодвух беларускіх ліцэяў выступілі з пастаноўкай у розных мясцовасцях Беласточчыны і нядаўна пабывалі ў Варшаве. Пра бежанства гаварылася і пісалася ў гэтым годзе многа, а ў Студзіводах паказвалася рэканструкцыя выезду ў бежанства.**
**7 кастрычніка з дакладам «Бежанства — наша супольная гісторыя 1915-1921» у Гайнаўскім доме культуры выступіла Іаанна Сапяжынская, настаўніца гісторыі Комплексу прафесійных школ у Гайнаўцы, якая даследуе мінулае Гайнаўшчыны. Апошнім часам збірае яна ўспаміны, фатаграфіі і дакументы перыяду бежанства. Асабліва цікавіць яе лёс бежанцаў з Вітава, у якім выхоўвалася. Нагодай для даклада пра бежанства стала інаўгурацыя акадэмічнага 2015/2016 года ва Універсітэце залатога веку ў Гайнаўцы.**

Пенсіянераў-студэнтаў і гасцей прывітала старшыня нўрадавай арганізацыі Універсітэт залатога веку Міраслава Паўлоўская. Падчас урачыстасці ўручаліся дыпломы і кветкі для пенсіянераў-студэнтаў, якія правучыліся 5 гадоў. Асобы, якія ўжо многа гадоў належаць да Універсітэта залатога веку ў Гайнаўцы, хвалілі свой выбар, бо маюць яны магчымасць удзельнічаць у цікавых дакладах, супольна займацца ў гімнастычнай зале, на басейне і на свежым паветры, палраўляючы стан здароўя. Былі яны рады шматлікім экскурсіям, якія арганізуе ўніверсітэт. Заняткі і фізічную актыўнасць старшыня ўніверсітэта Міраслава Паўлоўская назвала інтэлектуальным і фізічным развіццём пенсіянераў-студэнтаў. Інаўгурацыя акадэмічнага года закончылася выступленнямі вучняў Грамадскай музычнай школы I ступені, за якімі наглядала дырэктар школы і заадно настаўніца Гайнаўскага белліцэя і музычны кіраўнік беларускага калектыву «Знічка» Бажэна Вінцонак (ранейшае прозвішча Ляўчук). Па сабраных у канцэртнай зале ГДК было відаць, што моцна зацікавіў іх даклад Іаанны Сапяжынскай «Бежанства — наша супольная гісторыя 1915-1921», падчас якога дэманстраваліся шматлікія фатаграфіі, сабраныя дакладчыцай у нашых вёсках, дзе запісвала таксама бежанскія ўспаміны старэйшых жыхароў, якія яны пачулі ад сваіх бацькоў або дзядоў.

— Бежанствам я зацікавілася, слухаючы доўгія расказы маёй бабулі, якая апекавалася мною ў дзяцінстве. Апошнім часам я стала знаходзіць інфармацыі аб нашых бежанцах на сайтах гарадоў Расіі, у якія


З дакладам выступае Іаанна Сапяжынская

даехалі нашы людзі, — сказжа мне Іаанна Сапяжынская ўжо пасля даклада.

— Перад надыходам фронту летам 1915 года ў праваслаўных цэрквах, каталіцкіх касцёлах і жыдоўскіх бажніцах быў зачытаны дзяржаўны ўказ, у якім мясцовае насельніцтва заклікалася да выезду ў глыб Расіі. Ва ўказе пісалася пра дрэнныя адносіны немцаў да мірнага насельніцтва. Трывожны настрой узмацнялі чуткі пра гадасці, якія мелі нібыта рабіць немцы цывільнаму насельніцтву. (Нашы продкі ўспаміналі, як адны другім расказвалі, што немцы на занятых тэрыторыях выколваюць вочы і адрэзваць жанчынам грудзі — А. М.). Аказалася гэта няпраўдай, бо нямецкія вайскоўцы былі культурнымі людзьмі і прыбылі нават з нямецка-польскімі слоўнікамі. На Пінскіх балотах нямецкія войскі дагналі бежанцаў з Арэшкава, а ў Пружанах — жыхароў Карыцікаў і завярнулі іх дамоў. Так яны рабілі з іншымі дагнанымі бежанцамі. Там, дзе немцы неспадзявана прарывалі расійскую абарону, бывала, што частка жыхароў або ўсе з вёскі не паспелі выехаць і заставаліся жыць дома. Бачыла я пашпарт выдадзены нямецкай адміністрацыяй нашаму жыхару на дзвюх мовах — нямецкай і беларускай. (Захаваўся выдадзены ў 1915 годзе пашпарт маёй прабабулі з Новага Беразова, якой сям'я засталася жыць на месцы і ў пашпарце ўсе даныя напісаны лацінкай па-нямецку і па-беларуску — А. М.), — расказвала Іаанна Сапяжынская (прэзентаваныя ёю фатаграфіі тычацца перш за ўсё Вітава, Арэшкава, Дубіч-Царкоўных, Ягаднік, Карыцісках і Старога Корніна).

— Перад выездам бежанцаў праводзіўся спіс маёмасці жыхароў, каб можна было ў будучыні атрымаць кампенсацыю, але ў нас гэта рабілася спешна і ў хаосе, бо набліжаўся фронт. Перад звычайнымі жыхарамі эвакуаваліся ў Расію, між іншым, настаўнікі і чыноўнікі. Эвакуацыя вясковага насельніцтва адбывалася ўжо пад наглядам казакоў, якія перад надыходам фронту выганялі ў бежанства нават тых людзей, якія не хацелі пакідаць сваіх хат. Пасля здаралася, што казакі падпальвалі вёскі, каб немцам засталася спаленая зямля. Бывала, што людзі хаваліся ў пушчы і іншых месцах, каб перачакаць фронт. Але пасля даносаў казакі многіх іх знахозілі і выганялі ў бежанства. Так было, напрыклад, з жыхарамі Доўгага Броду, якія схаваліся ў пушчы, але нехта данёс, дзе яны хаваюцца і казакі выгналі жыхароў гэтай пушчанскай вёскі ў бежанства. З насельніцтвам Вітава было так, што падчас першага этапу бежанства дагнаў іх фронт і толькі часткі жыхароў вёскі ўдалося апярэдзіць адступаючыя расійскія войскі, а апошніх жыхароў Вітава дагналі немцы і завярнулі дамоў. Аднак іх тут спаткала іншая трагедыя. Калі адна жанчына з прымяненнем агню хацела пазбыцца мышэй, якія масава ціснуліся ў хату, пайшоў пажар па Вітаве — цэлымі засталіся толькі 4 хаты.

Настаўніца Іаанна Сапяжынская сказала, што падчас падарожжа ў глыб Расіі памерла многа бежанцаў, якіх хавалі пры дарогах і чыгуначных пуцях.

— Нашы жыхары спачатку ехалі на сваіх фурманках у Баранавічы і іншыя чыгуначныя вузлы. Там за невялікія грошы мусілі прадаць коней, кароў і вазы або проста там іх пакінуць. Далей у глыб Расіі адпраўляліся на грузавых вагонах, або нават на адкрытых платформах. Можна ім было ўзяць з сабой толькі па 32 кілаграмы багажу. Частка бежанцаў засталася жыць на тэрыторыі сённяшняй Беларусі і толькі пасля адправілі іх у глыб Расіі. Людзі масава паміралі, бо па дарозе не хапала харчавання, вады, а з-за вельмі дрэнных санітарных умоў распаўсюджваліся заразныя хваробы. Абочыны дарог і чыгуначных пуцей былі ўсеяны магіламі. Памерлых найчасцей закопвалі каля дарог, а ў лесе, бывала, прыкрывалі толькі мохам і голлем. Калі хто памёр у вагоне і не было часу закапаць, тады цела пакідалі каля чыгуначнага пуці. Жыхароў паасобных вёсак часта сялілі ў тых самых месцах, у Тамбоўскай, Саратаўскай, Разанскай, Омскай і іншых губернях. Бывала, што нашы людзі траплялі ў Маскву, ці на Каўказ. Мяркуецца, што ў бежанства падалося ад трох да шасці мільёнаў людзей, з якіх прыблізна трэцюю частку складалі жыхары Гродзенскай губерні. У бежанства выехалі таксама жыхары Холмшчыны, Люблінскага рэгіёна, Сувальшчыны, ці Усходняй Мазовіі. Найбольш у бежанства падалося беларусаў, але ў бежанства выязджалі таксама ўкраінцы, палякі, яўрэі і іншыя нацыянальнасці, якія пражывалі ў прыфрантавой паласе. На нашых землях каталікі ў многіх выпадках не выязджалі, але з іншых рэгіёнаў масава выязджалі таксама людзі каталіцкага веравызнання. Польскія гісторыкі мяркуюць, што ў бежанства выехала каля 1 мільёна палякаў, — расказвала Іаанна Сапяжынская. — Нашых бежанцаў рэгістравалі ў Расіі прадстаўнікі Камітэта вялікай княгіні Тацціяны, які апекаваўся бежанцамі. Дапамагалі ім таксама Царква, Касцёл і нацыянальныя камітэты. Дзейнічаў таксама Беларускі камітэт і іншыя беларускія арганізацыі. Бежанцы атрымлівалі білет бежанца, на падставе якога можна было атрымаць харчаванне і іншую дапамогу. Паток бежанцаў быў так вялікі, што большасць з іх не знаходзіла працы. Пасялялі іх часта ў расійскіх сем'ях. Наогул бежанцы добра ўспрымаліся расіянамі. З пачаткам рэвалюцыі штораз цяжэй стала з працай, не хапала харчавання. Нацыянальныя беларускія, польскія, ці ўкраінскія арганізацыі сталі патрабаваць ад рэвалюцыйных улад дазволу вяртацца на бацькаўшчыну. Пасля такі дазвол атрымалі. Зваротная дарога таксама была назначана магіламі бежанцаў, якіх найбольш вярнулася на Гайнаўшчыну ў 1921 годзе. Вярталіся бежанцы таксама ў 1922 годзе. Мяркуецца, што кожны трэці бежанец не вярнуўся і частка сем'яў раздзялілася. У многіх нашых вёсках вярнуўшымся бежанцам трэба было пачынаць жыццё з нуля. Хаты былі спалены, поле ляжала аблагом і аблясілася. Бежанцы будавалі зямлянкі, наймаліся на працу ў тых, якія засталіся на сваім месцы. Бежанцы прывезлі з Расіі расійскія песні, паэзію, танцы, сталі па-новаму аздабляць хаты, а жанчыны сталі рыхтаваць стравы паводле рускіх кулінарных рэцэптаў.

Матэрыяльныя паслядоўнасці бежанства было відаць доўга. Многія мясцовыя беларусы аж да Другой сусветнай вайны ўсё адбудоўваліся і адбудоўваліся.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА



Кацярына СЯНКЕВІЧ

## КАЛІ ЛАСКА

*

ты даў інструмент
што ачышчае
пустазелле
з сумлення

дзякуй
я няўдзячна
не ўмею скарыстацца
даведнікі чытаю
не малюся
цябе не пытаю

як

*

мая кроў змяніла колер
на пурпурны
а на смак яна стала
як сок чорнай парэчкі
салодкай
што выцякае з верху далоні
з касцей
на якіх трымаюцца
яшчэ пальцы

верхні пласт скуры быў
сцышчаны
з дапамогай шкіпінару
і белай мукі

калі ласка, маляваць спыніце
калі ласка, салодкія булачкі
не ядзіце

## ХРЭН

баюся пісаць табе
таму што ты хрэнам
ставішся да мяне
і ён злучае нас апрача гарачай
любові

праз страўнік да сэрца
рэзка і балюча
з бязмежным пачуццем
голаду

*

баліць ува мне
туга
халодная сумная сіняя

я – туга
мухі на мяне не сядаюць
думаюць што вада
а гэта туга

*

мае вочы не разумеюць жартаў
я кахаць цябе нягледзячы
на недахопы стараюся
і нягледзячы на грэх
адсутнасці адказу
вучуся атрымліваць асалоду ад
твайго адказу
што з іншай сустракаешся

таму што гэта становіцца жартам

# СПАСЫЛАЮЧЫСЯ НА ЗАБЫЦЦЁ

**«Дзяды» ў пастаноўцы аднаго з самых цікавых у цяперашні час польскіх рэжысёраў Паўла Пасіні, зрэалізаваныя ў Брэсцкім драматычным тэатры, пачынаюцца там, дзе канчаюцца ў Адама Міцкевіча. Рэжысёр усе часткі драмы паскарочваў і паперастаўляў. Разам з аўтаркай сцэнарыя Патрыцыяй Даловы ўключыў гісторыі перыяду Другой сусветнай вайны, пачутыя рэалізатарамі на беларускім Палессі, або спасланыя на габрэйскае мінулае самога Брэста. Няцяжка знайсці ў іх таксама (напрыклад, праз візуалізацыі) спасылкі на пацыфікаваную ўладамі Беларусі яе сімволіку як частку беларускай незалежнай ідэнтычнасці. «Дзяды. Брэсцкая крэпасць» — так гучыць на беларускай афішы поўны загаловак — скарочаны толькі да першай часткі драмы, якая перш за ўсё гаворыць аб неабходнасці аднаўлення калектыўнай памяці, няраз выцяснянай або цэнзураванай.**





Польская прэм'ера спектакля адбылася 17 кастрычніка ў прасторы прэстыжнай Галерэі «Лабірынт» у час Тэатральных канфрантацый у Любліне, крыху больш за месяц пасля прэм'еры, якая суправаджала фестываль «Белая вежа» ў Брэсце. Неспадзявана спектакль, які доўжыўся больш за дзве гадзіны, пачаўся ў... 23 гадзіну. Такі час быў проста вызначаны арганізатарамі Канфрантацый. Перад люблінскім паказам Павел Пасіні зрабіў прэм'ернай аўдыторыі агаворку, што прэзентацыя адбудзецца на беларускай мове, без перакладу на польскую (карысталіся выдатным перакладам на беларускую Сержа Мінскевіча), каб — як сцвердзіў — можна было аслухацца з мовай, якая выкарыстоўвалася на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Са сцэны гучалі таксама і «трасянка» ды польская, руская і ідыш (суперакладчык тэкстаў, якія выкарыстоўваліся ў прадстаўленні — Сяргей Кавалёў). Уплеценыя матывы з-па-за Міцкевічавага твора — як падкрэслілі выканаўцы — маюць «разбураць пэўныя заканамернасці і развенчваць некаторыя міфы». На думку Паўла Пасіні, пра рэчы да гэтай пары ігнараваныя або замоўчваныя, нарэшце, трэба сказаць. Іх раскрыццё было вельмі важнае ў прадстаўленні.

— Гісторыя не чорна-белая. Усе справы патрабуюць, каб знайсці спосаб сказаць пра іх. Гэта было абсалютна самае галоўнае ў нашай працы, — тлумачыў рэжысёр падчас прэс-канферэнцыі ў Брэсце.

Як тады сцвердзіў, «Дзяды» сталі ідэальнай канвай для расказу пра пахаваныя ў памяці фрагменты нашай гісторыі:

— Перш за ўсё мы працавалі над памяццю. Вядзьмарства, тое, што адбываецца ў Сенатара, што адбываецца ў індывідуальным плане Густава, усе гэтыя пытанні звязаны з тым, што трэба зрабіць парадак з памяццю. Трэба ачысціць адносіны з памерлымі. Калі гэтага парадку няма, немагчыма жыць, немагчыма дыхаць, немагчыма функцыянаваць. І немагчыма аднавіцца — што з'яўляецца асноўным праектам Міцкевіча, а менавіта, што ўсе ўдзельнікі ўсіх гэтых планаў становяцца новымі, падымуцца як нацыя, што яны самі стануць сабою.

Пасля люблінскай прэм'еры рэжысёр распавёў «Ніве»:

— Калі я рэалізаваў праект «Галька / Гаіці», накіраваны на нашчадкаў польскіх легіянераў (оперу Станіслава Манюшкі прадстаўлялі ў гарах Гаіці, а фільмавы запіс быў прадстаўлены ў польскім павільёне на апошнім Венецыянскім біенале — М. Х.), я ўзяў з сабой тэкст «Дзядоў». Начамі перакладаў драму на англійскую мову. Я зразумеў, як «Дзяды» не паддаюцца перакладу, як немагчыма людзям не з нашай культуры зразумець што-небудзь. І нават не ў пласце зместу, але як растлумачыць сур'ёзна вядзьмарства. Гэта не пытанне захаплення нейкімі народнымі практыкамі, ніякая інжынерыя, але што памяць на самой справе не дае спакою. Тое, што не завершана, вяртаецца на ўзроўні здароўя супольнасці, парушае яе абмен рэчываў (...). Калі рэжысёр тэатра ў Брэсце прапанаваў мне паставіць што-небудзь з польскіх класікаў, і я назваў «Дзяды», заявіў, што гэта ж класіка беларускай літаратуры. Калі я папрасіў перадаць мне тэкст «Дзядоў» па-беларуску, атрымаў толькі ІІ і IV іх часткі і сказалі мне, што гэта ўсё. Канчаткова мы выкарыстоўвалі вельмі добры і адзіны комплексны пераклад Сержа Мінскевіча. У Брэсце сказалі нам, што гэта ўвогуле не беларускі і нават графаманскі пераклад.

* * *

— Таксама па асабістых, сямейных прыкметах ёсць у мяне патрэба задаваць сабе розныя пытанні, як на самой справе было. Пра сапраўднае імя маёй бабулі мая маці даведалася ад мяне. Яна сказала, што яна не гаворыць і не чытае на ідыш, а пасля мы знайшлі лісты да яе на гэтай мове. Быццам бы свайго габрэйства не хавала, але не дапускала, каб шмат фактаў магло нам прыйсці ў галаву. Кожнае другое пакаленне вяртае тое, што забытае. Калі пачынаеш у гэтым арыентавацца, гэта дае такую цягавую сілу, быццам бы меў дадатковыя мышцы. Пахаванае, гэта такія энергетычныя рэсурсы, якія выяўляеш, падключаешся да іх і яны спрычыняюцца да таго, што ты становішся мацнейшым. Адкрываюць прастору, даюць адказ на пытанне: што я тут раблю? Падазроныя пытанні аб уласнай ідэнтычнасці многа далі таксама польскаму тэатру: чаго я баюся, што асвятляю, што паўтараю як мантру, спрабуючы прыкрыць штосьці іншае. І ўсё гэта адбываецца і ў «Дзядах».

* * *

— Калі ўдзельнічаеш у дзядах, ты заўсёды з'яўляешся ўдзельнікам гэтага абраду і заўсёды ўласная гісторыя цябе заглушвае, не можаш з гэтага вырвацца. Я думаю, што можна гаварыць насуперак поп-заглушанням. У Беларусі сёння дзяды, пасля перасячэння стэатралізаванай банальнасці, могуць быць чымсьці, што сапраўды дзейнічае. У «Дзядах», у капліцы, прывіды гавораць вуснамі тых, хто ў ёй знаходзіцца. «Дзяды» гэта таксама турэмная стратэгія. Праект Густава-Конрада гэта праект вялікіх уцёкаў з турмы, вызваленне «напрасткі», калі невядома, што рабіць з уласным развоем. Мабыць, я прыехаў у Беларусь, у краіну, якую сабе я міфалагізаваў, але я ўпэўнены, што «Дзяды» прывядуць да таго, што тэатр увойдзе на іншы ўзровень, супольнаснага вопыту.

* * *

— Мы маем крывадушнае, перастаўленае, парушанае тое, што тычыцца памяці — не толькі беларусы, але і палякі. Першае забыццё, з якім я сутыкнуўся ў Брэсце, тычыцца саміх «Дзядоў», перш за ўсё, адсутнасці іх трэцяй часткі. Чарговае тычыцца партызан: яны заўсёды добрыя, яны героі. Калі хто-небудзь пачынае гісторыю, што спалілі вёску, выклікае спрэчнасці. Калі мы прыязджалі ў вёску на Палессе, усе казалі нам: не гаварыце з намі па-руску, гаварыце па-польску, але паміж сабою гаварылі на рускай мове. У размовах, у чарговых сказах, вярталася тэма вайны, самых цяжкіх здарэнняў, якія быццам бы чакалі ідэальнага чужога, каб іх расказаць яму, таму што сваім гэтага не раскажаш. Што тычыцца Брэста, склалася ўражанне, што ў глушы размешчаны макет нейкага еўрапейскага мястэчка. Толькі пазней высветлілася, што гэта ўвесь горад перанесены з раёна крэпасці, якой гісторыя — як нам здавалася — вырашае як функцыянуе памяць, а на самой справе не функцыянуе, а звязана яна з польска-беларуска-габрэйскімі адносінамі і ўсім тым, што адбылося на самой справе ў раёне крэпасці. Мы спрабавалі даведацца ў людзей на месцы, якія элементы з'яўляюцца беларускімі і не належаць да расійскай культуры, што «іхняе», нават на ўзроўні страў. Большасць з іх не магла адказаць. У Брэсце тэмай табу з'яўляецца гісторыя крэпасці. У самым пачатку дырэктар брэсцкага тэатра сказаў нам, што нам нельга гаварыць пра яе, нават у назве. Тлумачылі нам, што ў 1990-я гады пачалі грэбіцца ў сваёй гісторыі. Не той звязанай з яе герайчнымі абаронцамі нямецка-савецкай вайны, а той, у якой ветэраны не адыгралі такой важнай ролі, аб якой афіцыйна гаворыцца. З іншага боку, не гаворыцца, што сярод абаронцаў Брэсцкай крэпасці былі таксама палякі і які быў тут рэальны ход вайны, хто перад кім абараняўся. І ўвогуле дырэктар тэатра ў Брэсце паўтараў нам, што аб гісторыі Другой сусветнай вайны трэба расказваць добра, або ўвогуле не расказваць. Іншым пытаннем, звязаным з бяспамяцтвам, з'яўляецца там зменяючаяся тоеснасць жыхароў Беларусі ў чарговых выпадках гісторыі, якіх скура змянялася як у хамелеона.

* * *

— Гаворка пра агульную польска-беларускую спадчыну адбываецца толькі на дэкларатыўным узроўні. У нас ёсць некаторыя элементы агульнай адчувальнасці, але я не сцвердзіў бы, што «Дзяды» з'яўляюцца фундаментам, які дазваляе акрэсліць, кім ёсць малады паляк ці беларус у 2015 годзе. Гэта тыя цішыні, забыццё робяць нас падобнымі адзін на аднаго. У гэтых адносінах у мяне склалася ўражанне, што Беларусь ёсць як Польшча 25 гадоў таму. Гэта забыццё, але ўсё яшчэ захоўванае. Гэтых «скрыняў» не выкідваюць, але ў «падвалах» яны недзе валяюцца. Польская і беларуская гісторыя па-ранейшаму вібруе дзесьці, неяк нас загортвае, нягледзячы на тое, што пра яе не гавораць. Мы цяпер знаходзімся ў тым перыядзе, калі гісторыя вызваляецца і прытым свет гэтаму апладзіруе, што відаць па Нобелеўскай прэміі Святлане Алексіевіч. Свет хоча слухаць гэтыя гісторыі. У сваіх узаемаадносінах мы гаворым сабе нават больш, чым менш, каб ісці далей.

Спектакль «Дзяды. Брэсцкая крэпасць» у рэжысуры Паўла Пасіні (ён таксама аўтар музыкі) быў пастаўлены ў капрадукцыі з Інстытутам Адама Міцкевіча. У Беларусі п'еса мела выдатныя водгукі. Крытыкі пісалі м.інш.: «Выдатны прыклад таго, як трэба сумяшчаць традыцыю з сучаснасцю, як ставіць класіку ў цяперашні час», «вельмі важны і сімвалічны спектакль». Але таксама гучалі меркаванні: «Нашы гледачы негатыўна на такое водвішча». Пра тое, як выглядаў спектакль, меркаванні брэсцкіх акцёраў, сцэнографа (Алены Лола Лолі) і гледачоў — у наступным нумары.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



http://www.discomax.pl

# МОЙ ЗЯМЛЯК — СЕЛЕБРЫЦІ

Апошнім часам на партале wp.pl разгарэлася вайна інтэрнаўтаў, а то дзякуючы інтэрв'ю дыджэя польскай футбольнай рэпрэзентацыі Гірка Вроны, які часта выступае ў музычным сюжэце інфармацыйнай тэлепраграмы „Teleexpress”. Менавіта Гірэк Врона крытычна ставіцца да таго, каб на матчах футбольнай рэпрэзентацыі Польшчы пускаць польскую папсу. Вядома не ад сёння, што польскія спартсмены, а асабліва футбалісты і валейбалісты, вялікія фанаты музыкі жанру „disco polo”. Таксама і фанаты польскага футбола вельмі любяць гэты жанр музыкі. На пытанне журналіста ці спадар Врона ведае творчасць польскай групы „Акцэнт” — фільмікі з песнямі якой на Ютубе б'юць рэкорды папулярнасці сярод футбалістаў — дыджэй кажа, што зусім не ведае творчасці гурта „Акцэнт”.

— Няхай сабе футбалісты слухаюць песні „Тэрцэта экзатычнага” ці Віялеты Вілас, а я ім песень гурта „Акцэнт” не ўключу, бо ёсць шмат лепшай музыкі, чымсьці дыска-пола — заявіў спадар Врона.

І пад тэкстам інтэрв'ю з Гіркам Вронам пасыпаўся вадаспад каментарыяў:

— Ганьба! Гэта крывадушнасць, каб ён не ведаў творчасці групы „Акцэнт”!

— Шапэна ўключай на футбольных трыбунах!!!

— Гэта фальш! Напэўна, як нап'ецца гарэлачкі, то куляецца пры дыска-пола!

Праўду кажучы, каментарыяў з'явілася 5 старонак ды большасць з іх з прыхільным стаўленнем да творчасці групы „Акцэнт”. Яшчэ хтосьці заўважае, што калі футбалісты пачалі слухаць дыска-пола, то сталі выйграваць матчы з моцнымі еўрапейскімі камандамі. Аднак пачнем з таго, хто гэта група „Акцэнт”, якой відэакліпы ды песні апошнім часам карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў інтэрнэце.

### МОЙ ЗЯМЛЯК

Мала хто ведае, што адзін з самых папулярных выканаўцаў польскай музыкі жанру дыска-пола, лідар польскай групы „Акцэнт” Зянон Мартынюк нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Градалі на Бельшчыне (гэта ж 5 кіламетраў ад маёй роднай вёскі Маліннікі). Мала хто ведае, што пакуль Зэнэк заснаваў у жанры польскай музыкі, то выступаў на фестывалі „Беларуская песня” ў Беластоку. Вялікая папулярнасць польскай танцавальнай музыкі ў апошні час прычынілася да таго, што музыкаў жанру дыска-пола сталі запрашаць выступіць у самых папулярных праграмах польскага тэлебачання, тыпу „Pytanie na śniadanie” у TVP2, „Dzień dobry” у TVN, „Świat się kręci” у TVP1, якія да гэтай пары востра крытыкавалі польскую папсу. Менавіта 29 верасня г.г. вядомы польскі журналіст ды шоўмен Куба Ваявудскі, заадно публіцыст папулярнага часопіса „Polityka”, да сваёй аўтарскай праграмы на папулярным польскім тэлеканале TVN запрасіў Зэнка Мартынюка. Прычынай запрашэння было тое, што лідар групы „Акцэнт” апынуўся ў групе найлепш аплачваных зорак музыкі дыска-пола. Менавіта Зэнэк іграе 6 канцэртаў у дзень, а за адзін канцэрт бярэ 12 тысяч злотых. Вынікае з таго, што група „Акцэнт” за дзень зарабляе 72 тысячы злотых! Зэнэк стаў вельмі вядомым артыстам не толькі сярод фанатаў польскай папсы. Пра тое, што ў студзені г.г. у Нямеччыне ў гатэлі абакралі Зэнка, пісала папулярная польская штодзёнка „Fakt”, а калі лідар групы „Акцэнт” ляжаў у беластоцкай бальніцы, то пра гэта паведаміла самая папулярная газета „Super Express”! У Зэнка інтэрв'ю ўзяло польскае тэлебачанне TV Puls. У шоў Кубы Ваявудскага ў TVN Зэнэк прызнаўся, што калі пачынаў іграць у 1983 г. на вясковых забавах, то ніколі не спадзяваўся, што будзе іграць канцэрты для шматлюднай публікі, што запіша больш за 20 альбомаў, што будзе здымаць кліпы ў ЗША. Хаця „Акцэнт” іграе электронную музыку, то дбае пра якасць песень. Для групы „Акцэнт” тэксты песень пішуць дзве паэтэсы — Мажэна Зрайкоўская ды Івона Алімоўская. У аранжыроўках песень групы „Акцэнт” гучаць жывыя інструменты тыпу гітара, гармонік ці саксафон. Насуперак стэрэатыпу, што папсовыя музыканты не ўмеюць іграць ды спяваюць без плейбека, Зэнэк у тэлепраграме Кубы Ваявудскага даказаў, што цудоўна іграе на гітары ўсе музычныя жанры, пачаўшы ад гітоў такіх польскіх рок-груп як „Perfect”, „TSA”, канчаючы на цыганскім ды чэшскім фальклоры.

— А „Modern Talking” сыграеш? — пытае Ваявудскі

— Пэўна, што сыграю! Гэта мае музычныя кліматы! — з задавальненнем кажа Зэнэк ды адразу іграе на гітары ды спявае шэдэўр 80-х гадоў „You're my heart, You're my soul”.

— Мяне ўжо не здзіўляе, што ты іграў забавы па 8 гадзін, — прызнае рацыю Куба Ваявудскі, — ты не „discopolowiec”, а сапраўдны рокер!

Але гэта не навінка. У 2006 годзе Зэнэк Мартынюк выпусціў свой сольны альбом у жанры гітарнага поп-рока. Песні на альбоме „Do Ciebie” запісаны на жывых інструментах, а менавіта гітарах, бубнах, фартэпіяна. Толькі характэрны тэмбр голасу Зэнка, якога ніхто не скапіруе, на гэтай кружэлцы даказвае, што гэта група „Акцэнт”, а не нейкая рок-група. Мяне гэта не здзіўляе бо Зэнэк іграе на гітары з 8 года жыцця. Вядучы Куба Ваявудскі заўважыў, што Зэнэк мае вельмі адкрыты, непасрэдны ды шчыры характар.

— Я заўжды такі, — прызнаўся Зэнэк. Ён нават гатовы прыняць пад дах сваёй хаты бежанцаў з Сірыі. Зэнэк таксама зайграў на гітары ды праспяваў сваю самую новую песню, якую спяваў для 70-тысячнай публікі на фестывалі дыска-пола ў Аструдзе. Год назад у Аструдзе выступіў Юрый Шатуноў, аўтар мегагіта „Белые розы”, а таксама такія групы як „C.C.Catch”, „Mister President”, Thomas Anders z „Modern Talking” і іншыя. Другі госць шоў Кубы Ваявудскага, запрошаны разам з Зэнкам, гэта вельмі супярэчлівы, папулярны зараз польскі рэпер „Sobota”. Хаця рэперы вядомыя тым, што ненавідзяць музыкантаў жанру дыска-пола, то „Sobota” з павагай прывітаў лідара групы „Акцэнт”: „Вялікі талент, агромная харызма”, — тымі словамі з пашанай прывітаў Зэнка рэпер Michał Sobolewski „Sobota”. У час праграмы абодва музыканты, здаецца зусім розных жанраў, цудоўна дагаварыліся ды супольна выканалі мікс дзвюх песень. Супольная іх песня б'е рэкорды папулярнасці на Ютубе.

А Зэнэк для нас, землякоў, заўжды будзе нашым добрым суседам, сынам Васіля і Тэрэсы Мартынюкоў з вёскі Градалі, які калісьці іграў забавы ў нашых навакольных вёсках, а 2 жніўня на сваім „Мерседэсе” прыязджаў на свята Прарока Ілы ў царкву ў Падбеллі. А ў гэтым годзе зрабіў ён незвычайны сюрпрыз, бо 2 жніўня зайграў канцэрт у Бельску-Падляшскім на пляцоўцы маркета „Аргелян”. Канцэрт прыцягнуў так многа фанатаў Зэнка з Бельска, Гайнаўкі, Сямятыч, Беластока, што для дарожнага руху была нават закрыта вуліца Пілсудскага ў Бельску-Падляшскім. Пра гэта пісала нашая рэгіянальная газета „Nowiny Podlaskie”.

Можа вядомыя снобы ды знаўцы музыкі забараняюць слухаць музыку дыска-пола, але народ не дурны ды ведае, што добрае, шчырае ды ад сэрца і слухае ды паважае гэты жанр музыкі. Калісьці я жыў у студэнцкім інтэрнаце ў пакоі разам з сябрам, які слухаў музыку жанру блэк-метал, але заўжды любіў ды паважаў творчасць групы „Акцэнт”, бо паўтараў, што Зянон Мартынюк — сапраўдны музыкант. Вось такі незвычайны наш зямляк, якога ведае ўся Польшча. Аднак Зэнэк раз мне прызнаўся, што марыць запісаць альбом на беларускай мове і што прыемна ўспамінае свае выступленні на Фестывалі „Беларуская песня”, дзе ён дэбютаваў. Трымаем на слове.

Юрка БУЙНЮК

## ПАЛЯКІ І БЕЛАРУСЫ супольна адзначылі гадавіну бітвы пад Леніна

Па запрашэнні старшыні Горацкага райвыканкама Уладзіміра Піскіжава дэлегацыя Таварыства традыцыі Народнага Войска Польскага імя ген. Зыгмунта Берлінга ды Таварыства „Дэмакратыя і прагрэс” 12 кастрычніка падалася пад Леніна, дзе ўсклала вянкі і кветкі на магілах жаўнераў I Дывізіі пяхоты імя Тадэвуша Касцюшкі з выпадку 72-й гадавіны памятнай бітвы. Традыцыйна рота ганаровай варты Арміі Беларусі аддала вайсковую пашану, двойчы прагрымеў салют. На пачатку і ў канцы ўрачыстасці ваенны аркестр выканаў гімны Польшчы, Расіі і Беларусі. Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі, між іншым, памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — галоўны інспектар па Магілёўскай вобласці Генадзь Лаўранкоў, старшыня Магілёўскага абласнога савета дэпутатаў Анатоль Ісачанка, дырэктар Дома польскага ў Магілёве Юрый Журавовіч і камандзір Горацкага гарнізона. Не прыбыў, аднак, ніводзін прадстаўнік Пасольства Рэспублікі Польшча ў Мінску.

Перад пачаткам урачыстасці старшыня Таварыства традыцыі Народнага Войска Польскага Казімеж Рдзанэк, ад імя старшыні Саюза ваенных інвалідаў РП Мар'яна Казубскага, узнагародзіў ветэрана, салдата трох франтоў Сямёна Аксендлера медалём 85-годдзя Саюза ваенных інвалідаў РП. На святкаванне прыбыло каля тысячы жыхароў Леніна і Горак. Асабліва многа было моладзі і дзяцей. Сабраныя сардэчна прывіталі апладысментамі жаўнера I Дывізіі пяхоты імя Тадэвуша Касцюшкі, камандора, прафесара Юзафа Чарвінскага, які ў студзені 1945 года вызваляў Варшаву, а ў маі гэтага ж года браў Берлін.

У ходзе святкаванняў раённыя ўлады Горак пахавалі чатырох безыменных салдат Чырвонай Арміі, астанкі якіх былі нядаўна знойдзены на былым полі бою. Аднachасна гісторыю бітвы пад Леніна прыпомніў сабраным старшыня Таварыства традыцыі НВП Казімеж Рдзанэк. Удзельнік святкаванняў падпалкоўнік Багдан Пакроўскі сказаў нам наступнае: „Чым больш сённяшнія цэнтральныя і лакальныя ўлады замоўчваюць заслугі Народнага Войска Польскага, якое вызваляла нашу Айчыну з-пад гітлераўскай акупацыі, тым больш былыя жаўнеры адчуваюць патрэбу ў святкаванні чарговых гадавін бітвы пад Леніна. Гэта месца гераічнага змагання польскай арміі з нямецкім войскам на беларускай зямлі. Жаўнерская кроў пад Леніна і Монтэ-Касіна мела той самы колер і тую ж самую мэту ставілі сабе тыя, якія прынеслі сваё маладое жыццё на алтар свабоднай Польшчы. Гэта таксама сімвал братэрства па зброі славянскіх народаў”. А Пётр Жукоўскі ў сваю чаргу заўважыў, што „ў польскай арміі, якая ішла вызваляць Еўропу ад фашызму, было многа прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, у тым ліку беларусаў. Змагаліся яны за Польшчу, але таксама за захаванне ейнай шматкультурнасці. Гэта была супольная барацьба ўсіх нацыянальнасцей, каб спыніць знішчальную палітыку акупантаў і жыць у сваёй краіне”.

У зваротнай дарозе ўдзельнікі святкаванняў гадавіны бітвы пад Леніна запалілі лампадкі на магілах жаўнераў 78-га Слуцкага палка пяхоты, загінуўшых 19 ліпеня 1920 года ў наваколлі Баранавіч. Ветэраны адзначылі, што памятаюць аб усіх, якія аддалі сваё жыццё за Айчыну.

Адам БОБРЫК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# ПЛАНШЭТЫ ЗА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ!



Малодшыя навучэнцы з настаўніцай Эміляй Грыка

Восень — каляровая пара года. Якраз у гэты час, у нашых школах шмат паездак. Вось у Міхалове поўным ходам ішла падрыхтоўка да экскурсіі ў Беларусь. Куды, збіраліся нашы сябры?

— Хочам пабачыць памесце Дзеда Мароза, — кажа дырэктар Ян Лукша.

Чароўны закутак знаходзіцца ў нетрах Белавежскай пушчы. Да двара, дзе жыве Дзед Мароз, часта прыходзяць зубры, алені і дзікі. Іх таксама можам пабачыць у лесе. Як не дзіўна, яны не баяцца людзей. Не менш цікавым пунктам экскурсіі падаўся нам начлег у лясным двары графа Тышкевіча. Гэтае месца абсталяванае пад густ пушчанскіх трапераў. Яно эксклюзіўнае і адначасова суровае. Ноччу тут можна пачуць роў аленяў і вухканне пугача.



Дырэктар Ян Лукша

І гэта не канец сюрпрызаў, якія спадар дырэктар падрыхтаваў навучэнцам беларускай мовы.

— Мы купілі 44 планшэты, папольску: таблеты. Іх атрымаюць вучні, якія дабіліся найлепшых вынікаў па беларускай мове. Урокі з дапамогай планшэтаў будуць не толькі цікавейшымі. На іх можна запісаць усе матэрыялы, патрэбныя на заняткі і конкурсы. Увесь час нам не хапае падручнікаў і дапаможнікаў. А так будзе зручна і выгадна.

Калі пра конкурсы — у Міхалове рыхтуюцца да літаратурнага конкурсу «Дэбют». Удзельніцтва развівае здольнасці і амбіцыі дзяцей. Гэта таксама дасканалая прамоцыя школы. У Міхалове, самай багатай гміне на Падляшшы, ведаюць цану добраму іміджу. Таму кожную публікацыю ў «Зорцы» тут вітаюць з радасцю і гонарам. Вядома, пра гэта дбаюць настаўнікі, энтузіясты і прыхільнікі.

— Мы робім усё, каб беларуская мова была цікавай і патрэбнай, — кажа спадар дырэктар, — каб яна спалучалася з навінкамі, ведамі і прэстыжам.

**Зорка,**
**фота Ганны Кандрацюк**

Міра ЛУКША

## Какосавая пальма

Падумаў партугалец: «кока»
На плод, што вісеў там высока,
Бы там на дрэве малпіна абліччa.
Какос не толькі малпаў вабіць, кліча,
Хоць на арэху відны малпін твар.
Какосы — вельмі вартасны тавар.
Семдзесят пяць арэхаў-кастнякоў
З адной пальмы сабраць будзь гатоў!
Любіць какосавая пальма парасці
Уздоўж пляжаў цёплых грэцца і цвісці
І гадаваць свае пукатыя ядры,
У кожным — малака дзесь па вядры,
А пад лупінай — белая капра з насення,
З якой габлюшкі сыплюць у пячэнне,
Ціснуць здаровы, якасны алей...
Я хачу пальму такую мець хутчэй!
Што ўжо пятнаццаць мільёнаў год таму
Свой корань запускала ў зямлю,
Плады свае па морах слала ў даль,
І яны боўталіся ў грывах хваль,
І, скажам, ля Нарвегіі ці Ямайкі
Гатовы жыць вялікія арэхі-яйкі,
Асесці... Да росту ж трэба цёплы край.
Дык ты зрабі ў хаце пальмін рай:
Усадзі ў зямлю ў добрае вядро
Какосавае салідное ядро,
І... пачакай!..

Сільвія ГРЫКА, ПШ у Міхалове

## Першае лістапада

*Як штогод зноў восенню,*
*калі лісці жоўтыя і чырвоныя,*
*на могілках многа людзей,*
*нашы сэрцы сум ахоплівае.*
*Сёння мы ўспамінаем*
*гэтых, якія расталіся з намі,*
*адышлі ў нязнаны нам свет.*
*Гэта для іх агонь і кветкі.*
*Нават неба сумуе,*
*аглядае муры могілак.*
*Гэта сёння цэлымі сем'ямі*
*наведваем усіх,*
*якіх яшчэ помнім...*

## Загадкі з роднай хаткі

**УВАГА КОНКУРС! № 44-15**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 15 лістапада 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Ой, як спрытна, нібы мячык,**
**Скача з елак на дубы.**
**На зіму, яна няйначай**
**Сушыць ягады, грыбы.**
**Спелы ёй арэх трапляе —**
**У таемны склад схавае.**
**На зіму каб мець запас,**
**дбаць ёй трэба ў летні час.**
**В......**

(Н. Парукаў)

**Адказ на загадкі № 36-15: баравік, махавікі, маслюкі. Узнагароду, майку з лагатыпам Радыё Рацыя, выйграў "kuba" shadow8989@interia.pl. Віншуем!**



# Пікнік, яблыкі і каляровы «Сундук»

Згодна з этыкетам сяброўства, гімназісты з Гарадка пад кіраўніцтвам Альжбеты Раманчук і Ганны Гвіздак 25-26 верасня г.г. сустрэліся з сябрамі з Нарвы. Мы паехалі на біваку ў Крывец ля Нарвы. У асяродку «Святло» мы правялі два дні. Сустрэчу арганізавалі нарваўскія настаўнікі беларускай мовы Ніна Абрамюк і Ігар Лукашук ды бацюшка Аляксей Кулік з Ласінкі.

Калі мы ўжо даехалі, чакаў нас мілы сюрпрыз — там былі і нашы сябры з Сустрэч «Зоркі». Мы кінуліся ў абдымкі і сталі вітацца. Усе атрымалі пакоі, а пасля пайшлі на шпацыр па вясковай, абсаджанай яблынямі дарозе. Мы частаваліся садавінай, што расла пры дарозе. Пасля быў супольны абед. Так прайшоў першы фантастычны дзень! Не было там асобы, якая сядзела б сама і думала пра свае справы. Нехта гуляў у мяч, нехта ў бадмінтон, іншыя спявалі і гарэзнічалі. На вогнішчы прагучалі і «Беларусачка», і «Купалінка», а нават «Там у полі, два дубочкі». Мы зусім страцілі пачуццё часу, столькі было радасці і смеху. Снеданне таксама з'елі ў сямейнай атмасферы. Пасля прыехала спадарыня Дарота Сульжык, якая вучыла нас рукадзеллю. Лямцаванне аказалася цяжкай працай. Кожны меў магчымасць спрабаваць сваіх сіл, а таксама даведацца больш пра брэнд «Сундук». Даўняя скрыня, у якой дзяўчатам збіралі пасаг, для спадарыні Дароты стала інспірацыяй, каб заснаваць уласную фірму з такой жа назвай. Спадарыня Дарота паказала нам спосаб як прадоўжыць нашу спрадвечную традыцыю. Яе творы ўжо прыкмецілі ў шырокім свеце.

**Эліза Матус, Гімназія ў Гарадку**

Якуб ГОЙКА
Тыльвіца, ПШ у Міхалове

## Воўк

На мяне сёння грозна
паглядзеў воўк.
Ён мне нагадваў шоўк,
Меў погляд баязлівы,
Але мне здаецца,
ён не быў пужлівы.

Вікторыя ГОБЕЦ
Школа ў Міхалове

## Мой пакой

На ложку сядзіць мая лялька,
Побач спіць міленькі сабачка,
Маю яшчэ драўляны стол,
І крэсла для гульні.
Гэта мой пакой!

Альжбета ХАРКЕВІЧ
Новая Лука, ПШ у Нараўцы

## АЙЧЫНА

Мая малая Айчына —
Мая вёсачка малая,
Бо я ад заўжды тут жыву
І таму яна мне надзвычай
дарагая.
Падляшша
— прыгожае месца,
Семяноўскі заліў,
Белавежская пушча.
Дзе б ты не быў,
Успомніш
гэтае цудоўнае месца.

## УДЗЯЧНЫ МЯДЗВЕДЗЬ

*(мардоўская казка)*

Працавала ў полі жанчына. Бачыць, з лесу мядзведзь на дзвюх лапах ідзе. Падышоў ён да жанчыны, працягнуў лапу і зароў. Зірнула яна на нагу, а там загоненая стрэмка. Пашкадавала жанчына звяра ды дабыла стрэмку з лапы. Пабег на чатырох лапах мядзведзь у лес. А жанчына зноў за работу ўзялася. Доўга яна працавала, аж бачыць — зноў мядзведзь ідзе

— Ну цяпер ён мяне з'есць, — падумала.

Хацела яна ўцякаць, не паспела. Мядзведзь падышоў цалкам блізка і паставіў вулей-дублянку.

— Што ён яшчэ прыдумаў? — прашаптала ў думках жанчына.

Тым часам мядзведзь разбіў дублянку на дзве палавіны. Ён нізка пакланіўся і пацягнуўся ў свой лес. Падышла жанчына да дублянкі, а там поўна мёду. Наелася яна ўволю ды яшчэ свой збан ім напоўніла. Забегла дахаты, мужу расказала. Пайшлі яны разам на поле і назбіралі поўныя вёдры мёду. На цэлу зіму ім хапіла.

***(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)***

## Вершы Віктара Шведа

### Купі, татка, машыну

Было жаданне сына:
— Купі, татка, машыну.
— Сыночак мой харошы,
Не маем на гэта грошай.

Вучыся добра, сыну,
Купіш сабе машыну.
Сын спытаць налаўчыўся:
— Чаму ты добра не вучыўся?

### Малюе татка столь

Малюе татка столь,
Глядзіць на гэта Анатоль.
— Вучыся, — кажа матка, —
Працаваць так як татка.

Як дарасцеш, дык можа
Татку свайму паможаш.
— А ці татка нам, мама,
Будзе маляваць гадамі?

## Польска-беларуская крыжаванка № 44-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 40:**

Спорт, крок, ар, мыш, сорт, босы, кальцо, конь, сіла, прынц, танга, бас, ахова. Сам, прыз, кіта, колас, банан, соль, лось, пах, рыцар, рот, кастрыца.

Узнагароды, ільняныя кулькі з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгралі **Мартына Лукша** з Нараўкі, **Якуб Аўярчук**, **Віялета Смалюк** з Арэшкава, **Дамініка Календа** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Ślady, Rosomak, Tata, Habanera, Dzwon, Jawa, Jar, Stopa, Kwas, Klasa, Święto, Skecz, Adam, Zezowaty, Och!, Chór, Żółw

# „Зямны рай” Ванды Шышко

**Шчасновічы** — адна са шляхецкіх вёсак Шудзялаўскай гміны. Людзі тут надта веруючыя і прывязаныя да сваіх традыцый. Жывуць у вялікіх хатах на ўласных хутарах, на ўласных, найдаражэйшых на свеце гектарах. На хутары Шумінскіх стаяць дзве хаты. У вялікай жыве малады гаспадар з сям'ёй, у другой, меншай — яго маці Ванда. Іду з нечаканым візітам да жанчыны, якую ўбачу ўпершыню. Спадарыня Ванда сустракае мяне з кніжкай „Мой год 1944”, якая змяшчае ўспаміны нешчаслівага, ваеннага лёсу яшчэ жывучага гродзенскага ксяндза Стшалецкага.



— Плачу, чытаючы, — кажа дрыжачым ад хвалявання голасам. — Я таксама шмат што перажыла.

Яшчэ не ведае, што і ёй прыйдзецца расказаць менавіта пра гэтыя часы. Даведаўшыся, што буду яе фатаграфаваць, шляхецкім звычаем знімае з галавы завязаную ззаду хустку. Цяпер не адрозніваецца ад любой гарадской жанчыны.

Родам яна з недалёкіх, таксама шляхецкіх, Горных Малявіч. У міжваенным перыядзе дзед, Юзэф Шышко, надумаўся прадаць малявіцкую гаспадарку і купіць зямлю ў цяпер беларускіх Паплаўцах Берастаўніцкай парафіі. Там у 1931 годзе нарадзілася Ванда. А пахрысцілі яе ў самым вялікім і прыгожым берастаўніцкім касцёле. У залог за Паплаўцы дзед аддаў пасаг свайго сына Аляксандра — бацькі спадарыні Ванды — 2 тысячы ў золаце. Потым раздумаўся і вярнуўся ў Малявічы, а пасаг прапаў. Ванда ведае гэта з апаведаў.

Сама добра помніць прыход саветаў і арыштаванні. У 1940 годзе ноччу ў сакольскі арышт забралі Аляксандра Шышко, а разам з ім, між іншым, суседа Францішка і Яна Занеўскіх, настаўніка і тагачаснага кіраўніка малявіцкай школы Арлоўскага і Францішка Пуцілоўскага з недалёкіх шляхецкіх Пуцілак. Прычына — нехта са сваіх, аднавяскоўцаў данёс, што ў Аляксандра захоўваецца пісталет. Дапытвалі і катавалі яго на змену — у Саколцы і Мінску. Білі настолькі моцна, што прызнаўся ў абвінавачанні. Прысудзілі яму 20 гадоў лагераў у Краснаярскім краі.

Жонка Аляксандра Шышко, Марыя, засталася ў хаце з пяцярымі дзецьмі. Наймалодшаму Тадзіку было няпоўных два годзікі. На вёсцы якраз бульбу капалі. Сусед араў, маці выбірала. Ванда засталася ў хаце з дзецьмі, а найстарэйшы брат пайшоў у гумно па сена каровам. Убачыўшы на бэльцы пад столлю нешта абвязанае анучай, напалоханы пабег да маці. Разам вярнуліся ў гумно. У анучы знайшлі пісталет. Хутка, каб ніхто не прыўважыў, закапалі яго пад бярозай, а затым вярнуліся да сваіх абавязкаў.

— Дзе мамаша? — запыталі Ванду ўвайшоўшыя ў хату энкавэдзісты.

Да Марыі прыязджалі яны амаль штодзень. За пісталетам. Калі бацька ўжо прызнаўся, зайшлі ў гумно і паклалі руку дакладна там, дзе да нядаўна ляжаў пісталет. Калі б яго знайшлі, куля ў лоб. Папрасілі даць мужу бялізну. Маці была ўжо падрыхтавана на гэты выпадак. Падала ім мяшок з рэчамі Аляксандра.

Пасылала яму лісты цэлы год, без ніводнага адказу.

Малявіцкі прадсядацель Нядзведзкі загадаў прыходзіць на сход. Але ёй не было калі. Разхлаваўся. За непаслухмянасць, так як раней мужыка, выправіў яе на „белыя мядзведзі”. Чэрвень 1941 год. Ноч з пятніцы на суботу. У дзверы зноў загрукалі энкавэдзісты. Прыйшлі з Нядзведзкім.

— Павязём цябе к мужу, — сказалі.

— Ведаю, куды вы мяне павезяце, — адказала спакойна Марыя.

Пабудзілі ўсіх. Малодшы брат Ванды, Вітэк, нават захацеў з імі ехаць, сесці ў сапраўдны аўтамабіль. Старэйшы дванаццацігадовы Генрык схаваўся пад коўдру. Адзін з саветаў стаяў на парозе і пільнаваў, каб ніхто не ўцёк. Другі, добры чалавек, падказваў:

— Хазяйка, забірайце што можаце, дзіцішкам усё прыгадзіцца.

На чыгуначны вакзал у Саколку везлі іх на трох фурманках. Паехалі без Генрыка, які, дзякуючы немаму дазволу энкавэдзістаў, у гэтую ноч выскачыў з хаты праз акно. Потым дзядзька з Гарчакоў завёз яго на роварах да бабулі Казімеры Шышко ў падкрынскія, лясныя Шацілы. Пасля трох тыдняў Казімера і Генрык пехатой вярнуліся ў Малявічы. Баба абвязалася вялікай хустай, а ў кішэнь паклала нямецкі пашпарт з Першай сусветнай вайны. Напалоханы Гэнек, учапіўшыся бабулінай хусткі, прайшоў трыццаць кіламетраў. Немцы запынялі па дарозе, але ўбачыўшы бабулін пашпарт, прапускалі далей. Разхлавалася Казімера, убачыўшы зусім пустую малявіцкую хату. Добра ведала, хто ўсё гэта папрыбіраў. Пайшла да прадсядацеля. Той сказаў, што ўсё пазабіраў Фэлек — брат Марыі, які жыў на хутары ў Малявічах. Баба абяцала, што калі Нядзведзкі не аддасць ёй маёмасці, застрэліць уласнаручна. Праз нейкі час прадсядяцель прывёў некалькі цялят, упаў на калені і сказаў: „Шышкова, даруй мне”.

— Ведаеш, Нядзведзкі, — пачуў ад жанчыны, — тое, што ты пазабіраў, дарую. Але што ты Маню на Сібір адправіў, не дарую ніколі.

У час нямецкай акупацыі малявіцкія сяляне малако адпраўлялі падводамі ў Саколку. Нядзведзкаму загадалі прыехаць у Саколку разам з транспартам малака. Там яго ўжо чакаў нямецкі аўтамабіль. Дахаты ніколі не вярнуўся.

У Саколцы саветы загрузілі Марыю з дзецьмі ў таварны вагон. Некалькі малых закратаваных акон, збітыя з дошак нары і туалет — дзіра, вакол якой пасажыры павесілі кусок радна. 24 чалавекі ў адным вагоне, у асноўным жанчыны з дзецьмі. Сярод іх жонка сакольскага паліцыянта з чатырма сынамі. Вышэйшую інтэлігенцыю ўжо пазабівалі, цяпер заняліся больш ніжэйшым слаямі, звычайнымі людзьмі. 21 дзень у дарозе. Праз першых дзевяць дзён ніхто не адкрыў дзвярэй вагона, ніхто туды не заглянуў. На прыпынках праз акно вагона на шнурках спускалі бутэлькі, якія прахожыя напаўнялі вадой. Бывала, што не паспявалі іх напоўніць, данесці, а поезд ужо ад'язджаў. Потым пачалі рэгулярна забяспечваць іх цёплай і халоднай вадой, супам і варанай бульбай. Так было аж пад Краснаярск, да Ужура — апошняй станцыі. З Ужура грузавікамі перавезлі іх у калгас „Зямны рай”.

Вёска была дастаткова вялікая, але надта бедная. Маладых не было — іх на фронт забралі. Засталіся толькі жанчыны, дзеці і старыя. Апынулася там таксама адна нямецкая сям'я. Немка прыходзіла да Марыі ў госці, гаварыла па-польску. Нарадзіла дзіця ў калгасе, якое там памерла. Дзіця замарозілі ў труне і з гэтай труной недзе паехалі. Быў і жыд у вёсцы. Ванда бачыла як маліўся — сядзеў і галавой ківаў. Не хацела перашкаджаць, толькі „добры дзень” яму сказала. Марыю і дзве іншыя сям'і пасялілі ў адной хаце. Вялікая кухня, пакой і адна хлебная печка, ніякай мэблі. Спалі на падлозе. Найгоршая была першая ноч.

— Думалі, што адурэем. Адкуль узялося столькі клапоў? Сыпаліся як град з неба, толькі не белы, а чорны. Палохалі іх святлом. Так было ў кожнай калгаснай хаце. Ратаваліся перш за ўсё табакай, якую парылі ў кіпені, а затым аблівалі сцены. Табаку прынеслі нам суседзі.

Ванда хутка звыкла да сібірскага надвор'я, хаця зімы былі сапраўды цяжкія. Гуляла на вуліцы разам з іншымі калгаснымі дзяцьмі.

— Вясковыя людзі былі вельмі добрыя. Мабыць, яны таксама пражылі нешта падобнае. Папрыносілі нам усё, і ложак, і гаршкі.

Карыстаючыся магчымасцю, Марыя пераехала з калгаса ў горад Ужур. Быў ён сапраўды вялікі і прыгожы. Пасяліліся на акраіне, непадалёк ад чыгункі, па якой безупынна вазілі вугаль. У іх раёне, у адрозненні ад цэнтра горада, не было электрычнасці. Дасталі карткі на хлеб, порцыю ў пяць разоў большую, чым у калгасе. У краму хадзіла Ванда. Было надта далёка, таму адмарозіла нос. Адна з суседак пашкадавала дзяўчынку і запрапанавала Марыі перасяліцца ў іншае месца, бліжэй крамы. Паслала іх да Кацярыны Іванаўнай. Ванда кожнай раніцы варыла новай гаспадыні гарбату — кіпень, забелены малаком. Кацярына працавала начным старажам на нейкай базе. Заўсёды прыносіла бутэльку газы, каб было чым асвятліць хату. Вярнуўшыся на раніцы, выпівала кубак гарбаты, і ішла пільнаваць унукаў. Яе дачка працавала настаўніцай. Марыя на працу не хадзіла, даглядала дзяцей. Наймалодшае, амаль пяцігадовае, захварэла на бранхіт. Да доктара насіла яго, прывязаўшы да сябе поясам, сатканым яшчэ ў Малявічах. Хлопец быў даволі цяжкі. Дзве зімы абпраменьвалі яго спецыяльнымі лямпамі. Потым доктар сказаў:

— Знаеце, Марыя Станіславаўна, нада яму найці масла, мёду і альясу.

Сын Кацярыны, высокапастаўлены ваенны, прывёз Марыі ўсё што трэба. Дзіця паздаравела.

Ванда і адзін з малодшых братоў пайшлі ў школу. Папалі ў клас Валянціны — дачкі гаспадыні. Было ім там добра, не адчувалі сябе іншымі.

У калгасе, бывала, некаторыя дзеці абзывалі іх палякамі, але ніхто не абражаўся. От, адкажуць „кацап” і ўсё.

У красавіку 1946 года палякам загадалі забраць свае рэчы і ў канкрэтную гадзіну ставіцца на чыгуначным вакзале. Гаспадыня надта па іх плакала. Прывыкла да іх, асабліва да Віці — брата Ванды, які многа ёй дапамагаў у гаспадарцы. Пасля вялася шматгадовая карэспандэнцыя. Калі Кацярына памерла, лісты пасылала ім ейная дачка Валя.

Вярталіся так як і ў той бок, таварнымі вагонамі. Са станцыі ў Саколцы забраў іх далёкі сваяк з Маркавага Выгана. Чакаў сястру з Гарчакоў, якую таксама вывезлі ў Сібір. Сястра не вярнулася.

У цёплай хаце прывітала іх баба Казімера і найстарэйшы сын Гэнек.

Што сталася з яе мужам Аляксандрам? Выйшаўшы ў 1942 годзе на волю, паехаў у той жа калгас. Забраў з сабой суседа з Малявіч Францішка Занеўскага, Яна Рыбакевіча з Саколкі і Врублеўскага Аляксандра з Верх'ядліны. Яны таксама спадзяваліся сустрэць у калгасе свае сем'і. Перапрацавалі там год, а пасля далучыліся да польскай арміі ген. Андэрса.Толькі Рыбакевіч у калгасе застаўся. Сувязь з Аляксандрам зноў парвалася. Ваяваў у Італіі, а пасля вайны з'ехаў у Лондан. Забраў да сябе наймалодшага сына Тадэвуша. У Малявічы не прыехаў ніколі. Памёр у 1965 годзе. Маці была пры яго смерці, там яго пахавала. Сама памерла ў 1988 годзе на 91 годзе жыцця.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Высяленне з пушчы (1)

11 кастрычніка 1939 года начальнік гітлераўскіх паліцэйскіх фарміраванняў Гейнрых Гімлер загадаў сфармаваць 38 паліцэйскіх батальёнаў для акупіраваных тэрыторый. У большасць з іх былі пакліканы прызыўнікі каля трыццацігадовага ўзросту. У палове красавіка 1941 года ў Вене быў сфарміраваны такі менавіта 322 паліцэйскі батальён, які ў пачатку чэрвеня быў пераведзены ў Варшаву, а месяцам пазней у Беласток. Там гэтая часць была спачатку занята ліквідацыяй яўрэйскага насельніцтва, а з 17 ліпеня расчысткай з рэштак савецкіх часцей тэрыторыі між Беластокам і Картуз-Бярозай. 23 ліпеня батальён быў пераведзены ў Белавежу, дзе заняўся расчысткай Белавежскай пушчы пад паляўнічую тэрыторыю для рэйхс'егермайстра Германа Герынга. Як падае Лексікон Вермахта, з 25 да 31 ліпеня 1941 года, цягам аднаго тыдня, нямецкія паліцэйскія часці выселілі з тэрыторыі Белавежскай пушчы 6 446 чалавек з трыццаці чатырох вёсак...

Мікалай Раманчук, родам з Ціхаволі, які зараз жыве ў Гайнаўцы:

— Буды, што каля Белавежы, вывезлі ў пятніцу 25 ліпеня, Масева 26 ліпеня — была субота, праз нядзелю Ціхаволя яшчэ прабыла — тата хадзіў у царкву і бацюшка сказаў, што трэба метрыкі завезці ў Нараўку, бо напэўна заўтра і Ціхаволю вывезуць. Так і сталася — метрыкі завезлі ў Нараўку, то людзям было выгадна карыстацца імі. А бацюшку то і добра было, бо ў Чыжах не было бацюшкі, то ён, Васілій Васільеў, у Чыжы пераехаў, у яшчэ лепшы прыход; там ён і яго маці пахаваны каля царквы. Нас, Масева і Ціхаволю, вывезлі некуды каля Поразава. Там, куды нас вывезлі, было возера ці вялікі стаў, а праз дарогу была пратока, дзе была запруда, каб рыба не ўцякала ў рэчачку; мабыць там быў калісь маёнтак. Была там вялікая прыгожая школа, а людзі жылі бедна. Была вялікая мураваная плябанія з чырвонай цэглы...

Праз Ціхаволю ішоў немец, які ўмеў па-руску гаварыць, і сказаў, што жанчынам і дзецям будуць пададзены машыны ў вулачку, што сходзіць да Нямержы, і ўсе бабулькі і дзеці да, здаецца, пятнаццаці лет — забірацца на машыны. А гаспадарам загадаў аставацца і чакаць пагрузкі на фурманкі; падстаўлялі па дзве фурманкі для сям'і. Можна было забраць па адной карове. А нашай сям'і пашанцавала, бо мае цёткі жылі ў Навасадах каля Ялоўкі, адкуль была і мая мама. І яны ў нядзелю прыйшлі да нас пяшком. Тата кажа: „Толькі па адной карове дазваляюць забраць, то я вам фуру наладую і паедзеце назад канём". То нам добра было. Толькі не падумалі нейкае свінчо ўкінуць ці цялушку прывязаць; накалалі затое снойніцу, кросны, нічальніц напхалі і ўсялякай непатрэбшчыны, а па апошняе мелі прыехаць на другі дзень. І яны на той другі дзень едуць зноў у Ціхаволю, а ў Броўску на мосце ўжо немцы стаялі і іх вярнулі. Броўск між Ціхаволяй і Дабраволяй, там два драўляныя масты прыгожыя былі. Калісь там нармальная рэчка была, драўніну ганялі, а цяпер усё чаратом пазарастала...

Дзядзька Павільч, муж мамінай сястры, быў да вайны пісарам у гміне ў Ялоўцы. Ён быў праваслаўны і праваслаўных на такую працу ў прынцыпе не бралі, але дзядзькаў калега быў католікам і ўзяў. А дзядзька царскую гімназію ў Ялоўцы кончыў і яшчэ два гады ў Маскве вучыўся. І саветы яго не вывезлі; быў ён пры саветах кнігаводам пры млынах у Свіслачы. І спадзяваліся вывазкі і калі б яшчэ месяц-два, то маглі б іх вывезці як сям'ю польскага чыноўніка. Дзядзька пры Польшчы добра ў гміне зарабляў, то дакупіў зямлю ў Навасадах, і хату пабудаваў і мы там жылі ад 1941 да 1947 года, пакуль адтуль у Масева не перабраліся.

Нас, дзяцей, было трое, яшчэ брат Вася і сястрычка Ліда; ды бабулька яшчэ кульгавая ў нас жыла. І мы пайшлі на самаход, а мама з татам асталіся. І заехалі туды, а людзі казалі, што, вось, паноў прагналі, маёнткі раскідалі, то нас вязуць, каб тую зямлю абрабляць. Прыехалі ў тую вёсачку, не помню, як яна называлася, брук там, праўда, быў сякі-такі. Самаходы спынілі, адчыняюць і загадваюць выходзіць. Частку людзей высадзілі, а частку павезлі ў школу і плябанію; бацюшкі ўжо там не было. Немцы загадалі солтысу вызначыць людзей, каб забралі да сябе высяленцаў. Мы, баба, брат і сястрычка, сядзімо са сваімі клункамі, і прыходзіць да нас хлапец гадоў можа з сямнаццаць і забірае нас. Мы заходзім у тую яго хату, а хата такая як наш тут пакой у блёку, гліняны памост і той з ямамі; было ў той вёсцы і некалькі лепшых хат, але пераважна такія слабыя. Печ вялікая і мала месца аставалася. Пытаю, дзе мы будзем спаць. Кажа — прынясу салому і будзеце тут спаць. Я разглядаюся, а там па сценах блашчыцы (клапы) і прусакі (тараканы) лазяць. Думаю: загрызуць за ноч; хаця малы быў, было мне тады дзесяць гадоў, але ўжо кеміў. Кажу бабе: вы тут сядзіце, а я пайду ў школу, пабачу; да школы было адтуль каля кіламетра. Я зайшоў у школу, а там людзі не тое, што пакоі пазаймалі, але толькі па куточку; гляджу, а адзін куток парожні. Кажу: я гэты куток займаю і зараз вярнуся са сваімі, нікому яго не адступайце. Я забег да сваіх, ускінуў тыя нашы клункі на плечы, яшчэ Вася крыху, колькі даў рады, узяў, а баба з Лідай так ледзь ішлі. Прыйшлі мы ў той куток і так сядзелі. А фуры прыехалі на другі дзень, бо то ж шмат дарогі. Як ехалі, то некаторыя, што стаялі пры дарозе, гаварылі, што гэта так камуністаў вывозяць.

Прыехалі фурманкі, высяленцы павыпускалі сваіх кароў. Сенажаці там былі добрыя, але палі былі на прыгорках; няважная зямля там была, таму там, відаць, і людзі бедна жылі. Фурманкі, што нашых прывезлі, былі з Дабраволі і Рамнаўцаў — з тых вёсак, якіх не вывозілі, ад'ехалі. А сваіх фурманак нельга было забіраць, усё аставалася, у тым ліку вазы і коні ды іншы дабытак. Толькі па дзве чужыя фуры для вывазкі адной сям'і прызначалі. А што з нашым дабыткам сталася — невядома.

На другі дзень тата падаўся пяшком у Навасады, да шваґра. Узяў свайго каня, якога цёткі былі раней туды забралі, і ва Уладзіка Павільча, бацькі ветэрынара Міцькі, што быў у Гайнаўцы, таксама каня ўзялі; сваім возам тата ехаў, а пазычаным дзядзька. Забралі яны нас з нашымі клункамі, прычапілі кароўку і давай скрыпаць аж адтуль, з-за Поразава, бо ж тая вёска можа з дзесяць кіламетраў за Поразавам была. Выехалі пасля поўдня, а ўжо да ночы не змаглі ў Навасады прыехаць. Запыніліся пры невялікай вёсачцы — усяго там можа пяць ці шэсць хат было, а з другога боку лясок. Затрымаліся пры тым лясочку на тры-чатыры гадзіны, далі коням есці; ноччу было апасна ехаць, бо маглі немцы запыніць, а ў дзень то нават лягчэй патлумачыцца. Ужо моцна пацямнела, мы яшчэ не спалі, але бачым: ад аднае сасны перабяжыць, да другое, можа трох ці чатырох чалавек — ад сасны да сасны. Наслухоўвалі, хто мы. Калі асвядоміліся, што мы — высяленцы, тады пайшлі ў вёску, пастукалі ў хаты, каб далі ім паесці; гэта былі савецкія салдаты, што не здаліся ў палон, і хаваліся. На досвітку рушылі мы ў далейшую дарогу.

Пад'язджаем да Навасад і баба будзіць мяне: „Уставай Коля, бо да дзядзькавай калёніі даязджаем". Іхняя калёнія была між Навасадамі і Залешанамі. Прыехалі якраз на Ілію, сама сонца выходзіла з-пад гарызонту. Там, вакол дзядзькавай хаты, выган быў, мо з гектар сеянкі, шмат поля. І мы там абраблялі як на сваім, яшчэ нават лепш там было як у Ціхаволі, бо ў Ціхаволі палоскі былі, а ў Навасадах калёнія.

Ляцеў вялікі нямецкі самалёт, вёз з фронту раненых, і нешта ў ім сапсавалася і бухнуў між Луплянкай і Навасадамі. Немцы прыехалі, сваіх параненых ці забітых людзей забралі, а асталася вопратка, плашчы і іншыя рэчы. Ехалі высяленцы з Буд, пабачылі тое дабро і забралі сабе. Прыязджаюць немцы, а там нічога няма. Прыехалі ў Навасады, акружылі вёску; нас, на калёніі, не акружалі. У дзядзькавага сваяка былі палонныя, які памагаў на гаспадарцы; зараз пасля праходу фронту немцы тых савецкіх салдат, што асталіся, папрыдзялялі, у прынцыпе ўдовам, каб памагалі на гаспадарцы. Паставілі яго за клуняю капаць яму. Была там старэнькая бабулька, якая стала прасіць, каб таго Ваські, які быў з Разанскае вобласці, не расстрэльвалі; быў ён з калгаса, гаварыў, што там вельмі туга было. Пакінулі яны яго ў жывых, але паведамілі, што калі не знойдуцца тыя плашчы, то мужчын будуць выганяць, каб капалі сабе ямы. Былі там хлопцы, якія рашыліся шукаць; яны здагадваліся, куды паехалі тыя, што падабралі нямецкае дабро ад зваленага самалёта. Траіх хлопцаў, у іх ліку мой сваяк Сяргей Кардаш, паехалі на веласіпедах шукаць. Знайшлі таго чалавека, бадай, у Ціванюках. І кажуць яму: „Аддавай нам усё, да гузіка, што ты ад самалёта забраў, бо інакш прывядзем да цябе немцаў". І ён усё аддаў. А немцы забралі тыя плашчы і паехалі.

Мо з тры месяцы пажылі мы ў дзядзькі, аж прысылае камісар з Ялоўкі павестку, каб дзядзька ставіўся ў гміну. Пайшоў дзядзька; быў у яго даваенны ровар, але ўжо роварам нельга было мець і ён схаваў яго на вышкі. Камісар запрапанаваў дзядзьку працу ў гміне, бо дзядзька ведаў канцылярскія справы. Там працаваў таксама Каладзейскі, які пасля вайны быў настаўнікам у Луцэ. Дзядзька спытаў, што б было, калі б ён не згадзіўся. Тады, адказаў камісар, адправім вас на работы ў Германію. І дзядзька стаў на працу ў гміне, але ў Ялоўку не перабраўся, жыў у сваёй хаце і штодзень хадзіў на працу; бывала, што часам начаваў у Ялоўцы ў знаёмага.

Пасля немцы загадалі савецкім палонным ставіцца раз у тыдзень у сваю камендатуру ў Ялоўцы; там нават гестапа было. Быў у іх ліку такі Пецька, больш кемлівы. І ён вычуў, што ў чарговы раз іх не пусцяць, і не пайшоў. Знюхаўся ён з некалькімі іншымі, такімі як і ён, і далучыўся да іх у лес. У дзядзькі быў такі афіцэрскі пояс са шкуры, і раз ноччу прыйшоў той Пецька да дзядзькі, стукае. Дзядзька акурат быў дома і той Пецька прасіў таго пояса. Бяры, кажа дзядзька, ён мне непатрэбны. Мінула мо два месяцы, прыходзіць той Пецька з цэлай сваёй групай, мо з дзесяць чалавек. Загадалі завесіць вокны, дасталі літр самагонкі, цётка ўсмажыла ім яечню з саланінай. Выпілі яны, адзін з іх, мо гэта камандзір іхні быў, заглянуў у камору, забраў паўкапы яек, што там былі, палову саланіны; у каморы была толькі частка саланіны, рэшта была схаваная ў іншым месцы. А быў з імі адзін, бадай узбек, які накінуўся на дзядзьку: „А ты чаго ў немца работаеш?". Дзядзька патлумачыў, што яго ў іншым выпадку вывезлі б у Германію. „Ах, такі ты хітры, а ты не мог бы з намі ў лес ісці?". І схапіў сваю доўгую вінтоўку і бах, стрэліў у столь, аж дахоўку прабіла. Тады Пецька абсадзіў яго.

(працяг будзе)

Запісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Люба і Мікалай Раманчукі

# Музей ката




Не прытрымлівацца правілаў у гэтым музеі — адна асалода. Больш за тое, адміністрацыя асабліва не карае за непаслушэнства ў гэтым плане. Бо і немагчыма «не браць катоў на рукі» і «не набліжаць твар да жывёл на блізкую адлегласць» і гэта яны дасканала разумеюць. Тым больш, што ў Музеі ката ў Мінску валадараць сапраўдныя мілашкі — дырэктар Джымі, бухгалтар Рыжык, начальнік аддзела бяспекі Рысік і іх памочнікі.

Музей ката радуе аматараў чатырохногіх пушысцікаў з верасня. Адчыніўся ён у навабудоўлі на праспекце Дзяржынскага, каля станцыі метро «Грушаўка» (у трох прыпынках ад цэнтра). Нават у будзённы дзень, у працоўныя гадзіны, установа не пустуе. Сюды прыходзяць не толькі бацькі з малымі дзецьмі, але і арганізаваныя экскурсіі, прыязджаюць таксама госці з розных краін свету. Па словах чалавечай загадчыцы кашэчай пляцоўкі Алы Нароўскай, усе застаюцца задаволенымі ад атрыманых эмоцый. І гэта сапраўды не пустаслоўе. Аматарка сабак (якая хоча застацца ананімнай), чыё стаўленне да катоў — мякка кажучы — памяркоўнае, сказала, што час праведзены ў музеі — не змарнаваны. Да гэтай высновы безумоўна спрычыніліся жыхары-гаспадары музея. Гордая, але даверлівая Мішэль дазваляе сябе пагладзіць, але для гэтага неабходна дасягнуць яе ўзроўню і злавіць яе ў высокім доміку. Іншыя каты самі з цікаўнасцю ідуць палашчыцца, нават лезуць на рукі. Але, паколькі кацячая цярплівасць абмежаваная, у музеі ёсць месцы недаступныя для наведвальнікаў — там хаваюцца каты, якім надакучылі навязлівыя госці.

Некаторыя жыхары пляцоўкі пад добрай апекай і ў прыемнай атмасферы вяртаюцца да нармальнага жыцця і падмацоўваюць здароўе. Так Ціма да прыходу ва «ўстанову» бадзяўся па горадзе са зламанай лапкай. Музей ката, дарэчы, дапамагае не толькі сваім падапечным. Тут знаходзіцца каталог жывёл, якія патрабуюць дапамогі — ён пастаянна абнаўляецца. Наведнікі могуць азнаёміцца з дасье ката і выбраць сабе пухнатага сябра. На месцы



можна таксама заявіць пра ката, які шукае гаспадара і дадаць яго ў спіс. Апроч таго Музей ката накіроўвае частку зароблены сродкаў на дабрачыннасць — у прытулкі для бяздомных катоў.

Хоць пляцоўка рэкламуецца як «музей» катоў, больш падыходзіць ёй назва «галерэя». Невялікая прастора поўніцца ўсялякімі мастацкімі аб'ектамі — пра катоў, з катамі, з выявамі катоў. Экспанатам, праўда, прыходзіцца моўчкі змагацца за ўвагу гасцей музея, бо ўсё ж такі на першым плане тут жывыя коцікі. Тым не менш, экспазіцыя — асалода для вачэй аматара пухнатых. На сценах партрэты і здымкі катоў у многіх іпастасях і ў самых розных мастацкіх стылях. Каты-каралі, каты-піраты, каты-абстракцыяністы, каты-містыкі і, нарэшце, каты-каты. У музеі можна набыць карціны, а таксама скульптуры і невялікія апраўленыя партрэты і торбы, хоць каштуюць яны даволі канкрэтна — скураная торба з выявай каляровага ката — 5 мільёнаў беларускіх рублёў, то-бок больш за тысячу злотых. Затое, танней за афіцыйны курс, у музеі можна набыць долары. На жаль (або на шчасце — у кашалёк) гэта сувенірныя купюры, зразумела — з выявамі элегантных пародзістых.

Адна з музейных сцен цалкам аблеплена аматарскай творчасцю. Па задуме тут меліся прэзентавацца працы самых маленькіх наведвальнікаў, але ў атачэнні коцікаў, калі побач каляровыя алоўкі і аркушы паперы — мастацкі дух прачынаецца і ў дарослых. Як вынік — гарэзлівыя малюнкі павернутых задам катоў, на якіх аўтары падпісваюцца, для прыкладу: «Андрэй, 37 гадзікаў».

Кацячыя кавярні, музеі і галерэі — даволі новая з'ява. Але попыт на іх усё большы, бо ўсім вядома, што каты — самыя лепшыя і самыя разумныя жывёлы ў свеце. Магчыма і з-за таго беларуская Цэнтральная выбарчая камісія зусім нядаўна пабаялася зарэгістраваць у якасці кандыдата ў прэзідэнты самага вядомага кацяру ў краіне — Барсіка. Падтрымку жыхароў і гасцей мінскага музея на праспекце Дзяржынскага ён атрымаў бы безумоўна.

Тэкст і фота Ганны МОРДАНЬ




## http://kupala-museum.by

Распавядаючы пра беларускіх літаратараў, „Ніва" не аднойчы пісала пра Янку Купалу. Гэта тычылася як творчасці паэта, так і памяці аб ім, якую, у прыватнасці, увасабляе яго Літаратурны музей.

Больш за шэсць з паловай гадоў таму пра сайт Літаратурнага музея Янкі Купалы пісалі мы ў пятым нумары нашай газеты ад 1 лютага 2009 года. Той сайт існаваў адносна доўгі тэрмін, але, паколькі сайты, як і людзі, не могуць існаваць вечна, то не стала і яго. Праўда, гэта не значыць, што Літаратурны музей Купалы застаўся без прадстаўніцтва ў інтэрнэце. Зараз ён мае сваю інтэрнэт-пляцоўку, значна больш прывабную і насычаную цікавай інфармацыяй, чым раней.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце **http://kupala-museum.by**, то перад яго вачыма адкрыецца выканаая ў салатава-зялёным колеры выяўленне Купалаўскага сайта. Пасярэдзіне месяцца здымкі як уласна музейнага будынка, так і партрэтныя выяўленні слыннага паэта.

Нягледзячы на тое, што сайт прадстаўляе музей, што само па сабе не прадугледжвае хуткага абнаўлення інфармацыі, галоўная яго старонка аддадзена пад навінныя паведамленні. Прычым яны актуальныя для цяперашняга часу і датычныя як уласна музея, так і падзей культурнага жыцця. Так, напрыклад, адтуль мы даведаемся, што ў кастрычніку адбылося падпісанне пагаднення паміж Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміяй беларусаў Расіі і Літаратурным музеем, якое ставіць на мэце ўдасканаленне, развіццё і ўмацаванне супрацоўніцтва ў галіне культуры, адукацыі, захавання гісторыка-культурнай спадчыны. Таксама на галоўнай старонцы месяцца абвесткі пра выставы, што праходзяць у музеі.

Усе выйсці да рубрык сайта знаходзяцца ўверсе цэлага выяўлення. Пра біяграфію Івана Дамінікавіча Луцэвіча, які калісьці ўзяў сабе літаратурны псеўданім Янка Купала і з ім увайшоў у гісторыю, распавядаецца ў рубрыцы „Паэт". „У кожнага народа ёсць песняры, прарокі, што сілай свайго паэтычнага таленту вызначаюць не толькі шляхі развіцця роднай мовы, літаратуры, культуры, але і фарміруюць нацыянальную самасвядомасць, увасабляюць нацыянальную ідэю, даючы мэту і сэнс існавання не аднаму пакаленню. Яны становяцца сімваламі свайго народа", — сцвярджаюць супрацоўнікі музея на сваім сайце.

Біяграфія літаратара пададзена на сайце даволі падрабязна, але засталіся без увагі так званыя яе „белыя плямы". Гэта, у прыватнасці, спроба самагубства паэта, калі бальшавіцкія цемрашалы пачалі ягоны перaслед у тым ліку за тое, што пісаў ён выключна па-беларуску.

Рубрыка „Экспазіцыя" прадстаўляе апісанне кожнай з амаль дзесятка залаў музея, тэматычна прысвечаных розным перыядам жыцця і творчасці паэта. Тут, на жаль, не абышлося без недахопаў. Сучасныя IT-тэхналогіі дазваляюць рабіць віртуальны прагляд разнастайных рэчаў, не кажучы ўжо пра выставы і экспазіцыі. На сайце Літаратурнага музея Янкі Купалы такой магчымасці наведвальнікам не прадстаўляецца.

Паколькі музей складаецца не толькі з будынка ў Мінску — ён мае свае сядзібы ў месцах, дзе жыў Купала, то аб іх, а менавіта — Вязынцы, Ляўках, Акопах і Яхімоўшчыне можна даведацца ў адмысловай рубрыцы „Філіялы".

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# Дата з Календара

## Няпросты шлях беларускага місіянера



## 125 гадоў з дня нараджэння Віктара Шутовіча

Беларускі культурны дзеяч, каталіцкі святар Віктар Шутовіч нарадзіўся 27 кастрычніка 1890 г. у вёсцы Шутавічы Ашмянскага павета (цяперашні Смаргонскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і, вучыўся ў школе ў Ашмяне. У 1909-1913 гг. навучаўся ў Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі, дзе ўсвядоміўся як беларус. У 1913 г. пасвенчаны ў святары. Працаваў вікарыем у Вільні. Захаваўся ўспамін Віктара Шутовіча пра тое, як ён у 1913 г. ездзіў у Ліду, дзе меў гутарку са старым праваслаўным святаром, былым уніяцкім, па прозвішчы Каяловіч, які зрабіў на яго беларускі ўплыў. Апекаваўся Шутовічам і прэлат Ян Курчэўскі, які раіў яму чытаць „Беларуса".

У 1914 г. Шутовіч паступіў у Каталіцкую духоўную акадэмію ў Пецярбургу, аднак на трэцім курсе быў змушаны пакінуць вучобу з-за матэрыяльных цяжкасцей. Але паспеў прайсці там „школу" прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы. Многія беларуская клірыкі, якіх запісвалі палякамі, менавіта там усё больш усведамлялі сябе беларусамі. У гуртку пад кіраваннем Шыпілы ладзіліся пасяджэнні, дзе клірыкі рыхтавалі даклады. Вядома, што Шутовіч на адным з такіх круглых сталоў выступаў з дакладам пра творчасць Францішка Багушэвіча.

У 1917-1927 гг. Шутовіч працаваў пробашчам у вёсцы Барадзенічы на Браслаўшчыне. Шырока практыкаваў беларускую мову ў касцельнай службе, вёў нацыянальна-патрыятычную працу сярод мясцовага насельніцтва, за што пераследаваўся касцельнымі ўладамі. У 1927 г. быў пераведзены вікарыем (фактычна з паніжэннем статусу) у Ліду, пасля ў мясцовасць Трысцень (Тшціннэ) на Беласточчыне.

У 1929 г. годзе Віктар Шутовіч выехаў у ЗША, дзе працаваў сярод эміграцыі як беларускі святар. У 1932 г. вярнуўся на радзіму і да 1944 г. служыў вікарыем у Харошчы на Беласточчыне. З лета 1944 г. быў ксяндзом у кафедральным касцёле ў Мінску, пасля ў Барысаве, зноў у Мінску, дзе служыў у Чырвоным касцёле. Праводзіў актыўную місіянерскую дзейнасць.

У канцы 1945 г. Шутовіч рэпрэсаваны савецкімі ўладамі, зняволены паводле прысуду на 10 гадоў у канцлагеры. Быў у зняволенні на тэрыторыі Рэспублікі Комі. Вызвалены толькі ў 1953 г., зноў быў пробашчам у Мінску. У 1956 г. змушаны пакінуць сталіцу Беларусі і пераехаць у Барысаў. У гэтым горадзе таксама нелегальна выконваў святарскія абавязкі.

Як публіцыст і літаратар друкаваўся з канца 1920-х гг. у „Хрысціянскай думцы", „Беларускай крыніцы", „Калоссі", пісаў апавяданні, п'есы. У Вільні ў 1939 г. выдаў „Маёвую чытанку". Таксама апрацаваў зборнік „Калядныя песні", выдадзены Нінай Абрамчык у Берліне. У бібліятэцы Акадэміі навук Літвы ў Вільні захаваліся лісты Шутовіча да іншага беларускага святара Уладзіслава Талочкі. У іх ён прадстаўляе сваё бачанне душпастырства ў сітуацыі, якая склалася перад Другой сусветнай вайной.

Памёр Віктар Шутовіч 1 сакавіка 1960 г. у Барысаве. Пахаваны на мясцовых Кальварыйскіх могілках каля капліцы, якая была разбурана ўжо пасля смерці святара. На помніку Шутовіча надпіс беларускай лацінкай. У Барысаве пра святара захавалася добрая памяць. Да нядаўняга часу была і хата, у якой Віктар Шутовіч вёў патаемныя набажэнствы і душпастырскую дзейнасць.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# «Рэха пушчы» ў Гданьску





Мая чатырохгадовая ўнучка Мар'янка нецярпліва дапытвалася, калі будуць выступаць мае сябры з «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры. Пра тое, што «Рэха пушчы» працуе пры Гайнаўскім доме культуры, яна яшчэ не ведала, гэта толькі маё ўдакладненне.

Фактычна, апрача іншых калектываў, такіх як тэатр «Навпакы» са спектаклем «Svit za ochi», «Падвіленская капэла», мультымедыйная «Татарская паэзія», ці канцэрты «Danziger Pracht» і «Krieger Telus Band», выступіў беларускі хор «Рэха пушчы». Публіка гарачымі апладысментамі ўзнагародзіла вельмі ўдалы канцэрт калектыву, які, апрача беларускіх песень, такіх як «Ой, каля крыніцы», «Рэчанька», «Белавежа», «Званы» і іншыя, праспяваў рускую «Бярозку» і польскую «Саколы». А потым у час традыцыйнай ужо бяседы, дзе можна было пакаштаваць нацыянальныя вырабы, напрыклад смачны, асабіста падрыхтаваны старшынёй «Хаткі» Ленай Глагоўскай «смальчык», сябры з «Рэха пушчы» доўга, да поўначы, спявалі і спявалі, аж рэха няслося па вуліцах і завулках старога Гданьска.

Прэзентацыя калектываў нацыянальных меншасцей адбылася ў рамках XII Дзён нацыянальных меншасцей у Гданьску — «Гданьскія біяграфіі», якія адбыліся 15-17 кастрычніка 2015 г. на сцэне Дома тэхніка ў Гданьску. Арганізатарам мерапрыемства было, між іншым, Беларускае культурнае таварыства «Хатка». Багатая праграма трохдзённага мерапрыемства паказала шматкультурнасць Гданьска, а дэталёва пра гэта распавёў у дакладзе «70 гадоў да разнароднасці» праф. Андрэй Хадубскі. А цэлае мерапрыемства, як штогод, прафінансавалі ўлады шматкультурнага Гданьска.

**Тэкст і фота Міхась КУПТЭЛЬ**




## Выбары ў Чаромхаўскай гміне

На парламенцкіх выбарах 25 кастрычніка г.г. у Чаромхаўскай гміне правам голасу пакарысталася 2 899 жыхароў. Было выдадзена 1 095 бюлетэняў, што дае 37,77% прысутнасці. Галасаванне праходзіла ў двух выбарчых участках: № 1 у Гмінным асяродку культуры — жыхары пасёлка Чаромхі-Станцыі, № 2 — жыхары салэцтваў гміны.

На выбарчых бюлетэнях было прапісана 11 выбарчых камітэтаў. І так: на Грамадзянскую платформу прагаласавала 240 выбаршчыкаў, затым адпаведна на ПіС — 192, „Разам” — 43, Аб'яднаная лявіца — 268, Корвін — 51, „Кукіз '15” — 106, ПСЛ — 122, „Сучасная” Пэтру — 21, „Стоногі” — 3, Самаабарона — 1, Нова правіца — 2.

У Сенат Яўген Чыквін перамог кандыдата ПіС Тадэвуша Раманчука вынікам 806 : 228. **(ус)**

## Выстаўка шлюбных партрэтаў

Найперш узнікла такая ідэя ў Галены-Марыёлі Рэент — дырэктаркі Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы. Задумала яна сабраць як мага найбольш шлюбных партрэтаў жыхароў Нараўчанскай гміны.

Яе ідэю падтрымалі Таварыства „Ятрышнік” („Storczyk”) з Лешукоў і Міхнаўкі ды Таварыства прыяцеляў Нараўчанскай зямлі ў Нараўцы, а таксама загадчыцы вясковых святліц і бібліятэкаркі. Сабралі яны 54 партрэты жыхароў Альхоўкі, Лешукоў, Новага-Ляўкова, Старога-Ляўкова, Міхнаўкі, Нараўкі, Плянты, Прэнтаў і Семяноўкі. Можна іх глядзець на выстаўцы ў Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы. Усе партрэты ўпрыгожаныя бярозавымі галінкамі з зялёнымі лісточкамі.

Цікавае было само адкрыццё выстаўкі — з вясельным маршалкам, вясельным маршам (як некалі на вяселлях бывала). Быў каравай і некаторыя абрадавыя сцэнкі, між іншым, як цікава ды з якімі прыпеўкамі абдароўвалі маладую пару. Было што паглядзець і паслухаць.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Адгаданка

1. адтуліна ў сцяне для акна або дзвярэй, 2. адхоністы бераг зручны для купання і сонечных ваннаў, 3. чарнаморскі паўвостраў, 4. туга, сум, душэўная прыгнечанасць, 5. сястра сына, 6. горад на поўдні Турцыі на рацэ Сейхан, 7. Сяргей (1849-1902), расійскі канструктар агнястрэльнай зброі, 8. калючае пустазелле, 9. узвышша з вытокамі Дняпра і Дзвіны, 10. лодка з ветразем, 11. крывіцкі горад з крамлём, 12. пасля пытання.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 41 нумара

Вяз, Дзісна, зяць, папар, пума, рыцар, царыца, цела, шоўк.

Рашэнне: **Лепш пяць разоў умарыцца, як адзін раз пасварыцца**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | 2 | | | 3 |
| | | | 4 | | | | | | |
| 5 | | | | | | 6 | 7 | | |
| | | | | | | 8 | | 9 | |
| | | 10 | 11 | | | | | | |
| 12 | | | | | | | | | |

# 01.11 — 07.11

**(22.03. – 20.04.)** Будзеш адчуваць сябе вельмі камфортна нават у напружанай абстаноўцы. Кіраваныя жаданнем рызыкнуць Бараны ў лістападзе нярэдка будуць здзяйсняць непрадказальныя ўчынкі. Хоць рызыка — справа высакародная, але занадта захапляцца ёй зоркі не раяць. Выкарыстоўвай сваю магутную энергію ў мірных мэтах, у творчай рэалізацыі.

**(21.04. – 21.05.)** Можа быць даволі дзіўны і загадкавы час. Варта накіраваць усе свае сілы на выкананне старых спраў, завяршыць іх. Абудзі ў сабе спячыя таленты, якіх у Быкоў цэлая скарбніца. Можа з'явіцца імкненне змяніць свет. Пачні з сябе; змяні імідж, унясі разнастайнасць у сваё жыццё.

**(22.05. – 22.06.)** У лістападзе будзеш сам кавалём уласнага шчасця. Лёгкіх перамог зоркі не абяцаюць, але калі не будзеш ленавацца і прыкладзеш усе намаганні, то зможаш шмат чаго дабіцца. Зараз не варта марнаваць часу дарма. Павышай сваю кваліфікацыю, пазбаўляйся шкодных звычак, трэніруй пунктуальнасць. У канцы лістапада чакаюць цікавыя знаёмствы, сустрэчы са старымі сябрамі, актыўнае грамадскае жыццё, наведванне маштабных мерапрыемстваў. Апынешся ў цэнтры падзей і ўвагі.

**(23.06. – 23.07.)** Лістапад будзе даволі актыўным і пазітыўным месяцам. Цяпер самы час выяўляць сябе, развіваць свае таленты і здольнасці. Не варта сядзець склаўшы рукі, чакаючы, што ўсё вырашыцца само сабой. Прадпрымай канкрэтныя дзеянні, калі хочаш чагосьці дамагчыся. У канцы месяца надай пільную ўвагу сваім справам і навядзі ў іх парадак.

**(24.07. – 23.08.)** Напружаная абстаноўка. Усплывуць некаторыя нявырашаныя пытанні. Перачакай непрыемны перыяд, захоўвай спакой, не паддавайся правакацыям, каб не стаць ахвярай інтрыг і плётак. Могуць узнікнуць нейкія непаразуменні з паперамі. Дбайней правярай дакладнасць даных. Пад канец месяца сітуацыя выраўняецца, з'явіцца магчымасць праявіць свае дзелавыя якасці і арганізатарскія навыкі.

**(24.08. – 23.09.)** У лістападзе Дзевы апынуцца перад складаным выбарам і будуць вымушаны ўключыцца ў нейкую барацьбу. Ёсць рызыка стаць ахвярай махляроў, таму ўключы свой прыродны рацыяналізм на поўную магутнасць. Шмат часу прыйдзецца выдаткаваць на наведванне вышэйстаячых інстанцый і пераадоленне бюракратычных бар'ераў, але ў выніку ў вас усё атрымаецца.

**(24.09. – 23.10.)** Становішча спраў на працы запатрабуе ў лістападзе актывізацыі творчых здольнасцей. Будзе паступаць велізарная колькасць новай інфармацыі, дзякуючы якой ты ўзбагацішся ведамі і пашырыш кола знаёмстваў. Шануй стабільнасць у кантактах і ўвасабляй у жыццё рэальныя планы. Будзе велізарная колькасць перспектыўных прапаноў ад знаёмых і сяброў. Можаш унесці змены ў сваё жыццё.

**(24.10. – 22.11.)** Магчымыя нечаканыя павароты ў справах. Можа будзеш вымушаны адстойваць сваю пазіцыю. У сярэдзіне месяца рызыкуеш прапусціць пачатак новага важнага этапу ў сваім жыцці. Прыйдзецца пазмагацца за сваё месца пад сонцам, прымяніць усе свае тактычныя і стратэгічныя здольнасці. У другой палове месяца — цікавыя паездкі. Праясненне неадназначных сітуацый, знойдуцца адказы на старыя пытанні.

**(23.11. – 22.12.)** Будзеш выпраменьваць упэўненасць у сабе. Забудзь пра свае недахопы, падкрэслівай свае вартасці. Самае галоўнае — атмасфера ў доме. Калі ў цябе ёсць надзейны тыл, які дазволіць табе заняцца пабудовай кар'еры, бярыся за новыя справы. Пры вырашэнні фінансавых пытанняў старайся праяўляць асаблівую пільнасць. Своечасова аплачвай рахункі і вяртай даўгі.

**(23.12. – 20.01.)** Дастаткова сіл і жадання для пачатку новага этапу свайго жыцця. Зялёнае святло для творчых пачынанняў. Будзе мець поспех крэатыўнасць. Нават самыя амбіцыйныя планы могуць стаць рэальнасцю. Удасца адстаяць свае інтарэсы практычна ў любых умовах.

**(21.01. – 19.02.)** Прысвяці большую частку свайго часу рабочым справам. Падзеі будуць развівацца дынамічна. Навакольныя будуць добразычлівыя, без высілку зможаш дамагчыся самых маштабных мэт. Ключавая роля: тваё ўнутранае чуццё і парады значных людзей. Час прыемных навін, сюрпрызаў і нечаканых перамен.

**(20.02. – 21.03.)** Спрыяльны час для ўвасаблення планаў у жыццё. Сябры і аднадумцы дапамогуць табе ў ажыццяўленні гэтых ідэй. Магчыма, што адкрыеш у сабе нейкі новы талент. У цэлым, у тваім жыцці можа адбыцца нечаканы паварот, хутчэй за ўсё, станоўчы. У канцы месяца спатрэбіцца сабранасць і канцэнтрацыя на службовых справах.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 150 egz.



# У палескай глыбінцы (20)

■ Наталля і Іван Чмунэвічы з дачушкай Сашай

Юры пазваніў камусьці з Перабродаў, каб даведацца, хто са спевакоў застаўся ў жывых. Людзі, вядома, нявечныя. За хвіліну-дзве ўсё высветлілася. Сярод асоб, запісаных на кампакт-дыску „Polesie — pieśni i ludzie”, засталася Надзея Яўсовіч, 1941 года нараджэння.

— Хочаш пагаварыць? — спытаў Юры дзелавіта, як менеджар.

— Вядома, хачу. *Вэльмі* хачу.

Паколькі апанавала мяне нечаканая радасць, змешаная з хваляваннем, я прыкусіла язык і замаўчала. Усё адбывалася неспадзявана, паводле лепшага наведаць Нямеччыну і адшукаць сям'ю свайго легендарнага дзеда.

— Па фатаграфіі, — пачаў Юры, — я падобны на яго.

Юры хацеў бы запаліць свечку на магіле дзеда, пабачыць, як ён абсталяваўся ў далёкім краі, пачуць працяг сямейнай гісторыі, якая раптам абарвалася ў *сорак чацвёртым* і моцна назначыла яго сям'ю.

* * *

— Мой дзед служыў у Радзівіла, — сказаў, — у апошняга, што тут жыў перад вайной.

— У князя Карла Мікалая Радзівіла? двары? Не, такога не чуў. Ды навошта, як з Манкевічаў, дзе стаяў палац, зусім недалёка ў Перабродаў. Асабліва па рацэ Льве.

— А чым займаўся дзед у Радзівіла?

— Не скажу, дакладна. Ён быў даверaным, кімсьці важным. Пасля вайны Радзівіл угаварыў, каб дзед разам з ім з'ехаў за мяжу. Перачакаць ліхалецце. Іншай дарогі не было. Каб застаўся, яго бальшавікі ліквідавалі б.

Князь Карл Мікалай Радзівіл праславіўся як страсны паляўнічы. Дбаў адначасова пра лес. Пасля Першай сусветнай вайны ён пасадзіў сотні гектараў лесу, адбудаваў пагалоўе аленяў, ласёў і дзікоў. Пры яго двары працавала ажно сто пяцьдзясят леснікоў. Ці сярод лясной службы быў таксама дзед? Як тады ён дабіўся такога прызнання ў князя? Гэтыя пытанні не давалі спакою Юрыю. Каб знайсці адказ, хапіла паехаць у Нямеччыну. У хаце захаваліся пасляваенныя лісты, якія дзед дасылаў з Баварыі. Ён пытаў што дасляць, як дапамагчы, чаго патрабуюць.



■ Перабродская этнаграфія



■ Могілкі ў Перабродах

сцэнарыя. Яшчэ нядаўна я змагалася з перашкодамі і страхам перад нязведанай тэрыторыяй. А тут — такое звышсразуменне і дапамога.

— У нас таксама кажуць *вэльмі*, — прыкмеціў Юры.

Цягам чарговых хвілін мой прыгодны знаёмы аформіў праз сваю мабілку чарговыя спатканні. У тым часе ён бойка змагаўся з выбоінамі на дарозе і распавядаў гісторыю свайго роду. Юры марыў

— Не ведаю, хто гэты князь, Карл ён, ці хто? Яго палац непадалёк Століна стаяў. Сёння там парк захаваўся. Дачка Радзівіла аднойчы прыязджала, грошы на салідную агароджу выдаткавала.

Юры нічога больш не ведаў пра палац у Манкевічах. Доказам, які спалучаў яго дзеда з гэтым месцам, былі дрэвы.

— Гэты парк, што каля Століна, — адзначыў з гонарам, — пасадзіў мой дзед.

Ці яго сямейка жыла да вайны пры

— Тады быў цяжкі час, людзі галадалі. Аднак мая баба не магла напісаць пра гэта. Яна запэўнівала дзеда, што ў іх усё ёсць, што іх савецкая краіна „ў шакаладзе”. Што тут усім так добра, так мірна і ўсё такое...

Пісала, каб вяртаўся. Усё ліставанне праходзіла праз рукі палітрукоў. Хапіла панаракаць, ці нешта ляпнуць, каб раніцай усю сям'ю ў Сібір адправілі...

Ну, дзед не быў з тых дурных, ён умеў чытаць між радкоў. Пасля мы даведаліся, што ён там заснаваў сям'ю. Пэўна радня нейкая ёсць. Юры адчуваў нейкае прыцягненне з таго боку...

Тым часам нас ужо выглядалі на пясчанай вуліцы ў Перабродах нашчадкі Ганны Чмунэвіч.

(працяг будзе)



■ Рака Льва

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК



# XVIII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча абвяшчаюць XVIII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

**ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА**

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборліва рукапіс у двух экзэмплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XVIII Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**ТЭРМІНЫ**

**1.** Тэрмін дасылання да 16 лістапада 2015 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў снежні 2015 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.

ISSN 0546-1960